№ 21 (715) 1 чэрвеня 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднэўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Загадкі Плошчы**

Старонка 3



**Купляйце свіней у «Беларусбанку»**

Старонка 4



**Што рабіць, калі вас удзень залавілі ў краме?**

Старонка 7

**вы не паверыце**

## Лета роўна па раскладзе

Наступныя тыдні будуць гарачымі і сухімі.

Ад панядзелка над Беларуссю запанаваў гарачы антыцыклон. Спёка затрымаецца над краінай надоўга. Агароднікі, праўда, будуць нервавацца. Толькі час ад часу прагназуюцца кароткачасовыя дажджы з навальніцамі.

**Сяргей Гезгала**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Цэны, стой! Раз-два!

Цэны на мяса, рыбу, садавіну наступныя 90 дзён будуць рэгулявацца.

Да 1 ліпеня ўзровень цэн на сацыяльна значныя прадукты не можа перавышаць той, што быў зафіксаваны 28 мая. Казаць, што тым самым уладам удалося адолець рост цэнаў, няслушна. Да 28 мая цэны і так узляцелі да небывалых вышыняў.

Карцінны крок урада быў зроблены пасля пятнічнага выступу Аляксандра Лукашэнкі. Той заявіў, што «няма тых тавараў, на якія трэба паднімаць цэны».

У выніку Савет Міністраў на месяц адмовіўся ад неадменнага курса на лібералізацыю і замарозіў цэны на «сацыяльна значныя тавары». Іх пералік быў пашыраны. Цяпер туды ўваходзяць курынае мяса, вараная каўбаса, сасіскі, жывая рыба, агуркі, памідоры, яблыкі, бананы, кава, гарбата, соль і некаторыя іншыя тавары. Цэны на іх будуць рэгулявацца тры наступныя месяцы.

У сталіцы, апроч замарожвання цэнаў, з'явілася яшчэ адна настойлівая «рэкамендацыя», аформленая ў выглядзе ліста ад старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі. Той загадаў, каб крамы ўсіх формаў уласнасці знізілі гандлёвыя надбаўкі на 10%. Літаральна на наступны дзень дзяржаўныя СМІ радасна адрапартавалі — надбаўкі зменшаныя. Але наколькі гэтая прымусовая «зніжка» ашчадзіць кішэню пакупніка? Па словах першага намесніка міністра гандлю Аляксандра Забелы, гандлёвая надбаўка на харчаванне складае 16,5%, па нехарчовых таварах — 23,2%. Гэта значыцца, што ва ўяўнай булачцы коштам 1000 рублёў «зніжка ад Ладуцькі» складзе цэлых 15 рублёў!

**Яўген Васількоў**




**«Маладыя дэмакраты» выставілі ля Камароўкі плакаты супраць павышэння цэнаў.**

Яраслаў Раманчук: «Спачатку цэны паднялі на 50—100%, а зараз апусцяць на 2—4%».



# Антыкрызісная мера

У Мінску правялі парад бландзінак. Аказалася, гэта выміраючы від. **Старонка 8.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Нагадаем: Лукашэнка хоча зачыніць «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

## Што рабіць чытачам?

Просім дасылаць лісты пратэсту. **Старонка 2.** А каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміць Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.



## У нумары





# Сурыкаў: Расія не задумвае «бандыцкай» прыватызацыі

**Пасол Расіі абяцаў, што расійскі бізнэс будзе трымацца міжнародных нормаў.**

«Нічога бандыцкага і пачварнага ніхто не задумвае, калі ёсць жаданне беларускага боку», — заявіў у аўторак журналістам Аляксандр Сурыкаў.

Ён паведаміў, што рашэнне аб выдзяленні Беларусі крэдыту з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС будзе прынятае бліжэйшым часам: «Рада Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС 4 чэрвеня ў Кіеве будзе прымаць рашэнне аб канкрэтнай выдачы крэдыту, тады будзе падпісана крэдытная дамова. Я думаю, што гэта ўжо справа блізкай будучыні».

30 мая крэдыт ухвалілі эксперты Фонду. Ён можа скласці 1,2 млрд даляраў, з іх першая транша ў чэрвені — 800 млн.

Пры гэтым умовай выдзялення крэдыту называлася прыватызацыя Беларуссю любых прадпрыемстваў на выбар, але на суму, не меншую за 2,5 мільярда даляраў. Гаварылася, што першым актывам на продаж можа стаць беларуская доля ў «Белтрансгазе».

Да атрымання замежных крэдытаў Нацбанк не прадае валюты насельніцтву. Церпіць і прыватны бізнэс.

**Мікола Бугай**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Як заўважылі відавочцы, у кулуарах пасяджэння Рады міністраў замежных справаў краін — удзельніц АДКБ у Мінску 31 мая расійскі міністр Сяргей Лаўроў выразна цураўся свайго беларускага калегі Сяргея Мартынава. У той жа час Сяргей Лаўроў заявіў журналістам, што Расея не плануе санкцый супраць Беларусі. І няправільна казаць, што яна далучаецца да пазіцыі Еўрасаюза. Расія проста заклікае Мінск выконваць міжнародныя нормы, сказаў Лаўроў. Расея працягвае негатыўна ставіцца да таго, што «ўсе кандыдаты ў прэзідэнты ў Беларусі аказаліся ў турме». Лаўроў таксама працытаваў Лукашэнку, які заявіў, што спробы Захаду развярнуць яго на шкоду Расеі асуджаныя на правал. ЕС, як вядома, жорстка патрабуе ад Мінска спыніць рэпрэсіі і вярнуць людзям свабоду.**

## Сцісла

• **Ніякай дапамогі ад ЕС без дэмакратычных рэформаў.** Згодна з прынцыпам абноўленай Еўрапейскай палітыкі суседства (ЕПС), аб'ём дапамогі, якая прадастаўляецца ЕС краінам-суседзям, будзе залежаць ад дэмакратычных рэформаў у гэтых краінах, заявіў еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі суседства Штэфан Фюле. ЕС увядзе выразныя крытэры: «па-сапраўднаму свабодныя і сумленныя выбары, свабода сходаў, свабода СМІ; незалежная судовая ўлада, барацьба з карупцыяй і дэмакратычны кантроль за ўзброенымі сіламі і службамі бяспекі».

• **Дзяржава згортвае льготныя крэдыты на куплю беларускіх тавараў.** Раней такія крэдыты можна было атрымаць на тэрмін да трох гадоў пад 10% гадавых.

• **Генпракурор загадаў праверыць мінскае метро.** Рыгор Васілевіч даручыў неадкладна правесці праверку выканання службовымі асобамі Мінскага метрапалітэна заканадаўства, скіраванага на арганізацыю бяспекі руху і пасажыраў. Прычынай паслужыла інфармацыя, што з'явілася 30 мая ў інтэрнэце, аб свабодным доступе ноччу на станцыю метро «Маскоўская». Відэа выклала ў сеціве група мінчан, якая праз незамкнёныя дзверы пранікла на станцыю каля 4-й гадзіны ночы.

• **На палігоне загінуў афіцэр.** Прычынай трагедыі стаў разрад ад высакавольтнай лініі электраперадач. Ад атрыманых траўмаў афіцэр памёр на месцы.

• **З Лівіі збеглі пяць высокапастаўленых генералаў.** Збеглыя генералы прыбылі ў Італію. Вайскоўцы заклікалі сваіх суайчыннікаў адмовіцца ад падтрымкі Кадафі, які зладзіў у Лівіі, паводле іх словаў, генацыд.

**ЯВ, СМ**

# Стабільнасць

**Курс даляра на чорным рынку трымаецца ў раёне 6000 рублёў.**

Калі на мінулым тыдні курс то рос, то падаў, на гэтым ён застыў. У валютчыкаў даляр можна было прадаць за 5800—6000 рублёў. Купіць — даражэй.

«Вілка» паміж курсамі продажу і куплі ў суседніх краінах была яшчэ большая.

У абменніках валюты па-ранейшаму няма. Аперацыі між прадпрыемствамі таксама амаль прыпыніліся, бо яны лічаць курс 5000 заніжаным.

Некаторыя эканамісты лічаць, што Нацбанк прытрымлівае валюту, бо ў сярэдзіне чэрвеня павінен кроў з носа разлічыцца па свопкантрактах, згодна з якімі пазычаў грошы ў камерцыйных банкаў, калі яму не хапала валютных рэзерваў.

Найлепшыя незалежныя эканамісты Зміцер Крук і Сяргей Чалы мяркуюць, што такая падвешаная сітуацыя можа захавацца і ў наступныя тыдні.

**Сяргей Гезгала**

## Самае чытанае на nn.by

**за 25 — 31 мая**

1 У Мінску людзі атакавалі міліцыянтаў, якія разбілі галаву мужчыну — відэа

2 «Твар добра абпаліла»

3 Статкевічу далі 6 гадоў калоніі: фота і відэа з суда

4 Беларусы смяюцца з крызісу — фотажабы і коміксы

5 Лукашэнка: каб «потым паўгода поўзалі на каленях»

6 Што рабіць, калі вас сярод дня кантралёры залавілі ў краме?

7 Гісторыя Беларусі за пяць хвілін. Мультфільм пра «шалёны беларускі народ»

8 Лукашэнка: З кім спіць прэзідэнт? Я вам адкажу

9 Хто выведзе людзей на вуліцы?

10 Лукашэнка загадаў спыніць рост цэнаў, забараніць замежныя СМІ — відэа

# Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

Беларуская асацыяцыя журналістаў склала прыкладны ўзор звароту ў Мінінфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мінінфарма закрыць «Нашу Ніву» і «Народную Волю».

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь*
*Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск,*
*пр. Пераможцаў, 11.*
*Прозвішча, імя, імя па бацьку, дадзеныя пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

**Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.**

# Вышэйшы гаспадарчы суд адкрыў дарогу да закрыцця «Нашай Нівы»

**Суддзя Алена Маёрава не пагадзілася адмяніць папярэджанне.**

Нагадаем, папярэджанне было вынесенае за артыкул у «НН» № 14 ад 13 красавіка. Мінінфа ўгледзела ў ім «парушэнне грамадскіх інтарэсаў» і «падрыў даверу да органаў дзяржаўнай улады».

Папярэджанне было трэцім па ліку і стала нагодай для пачатку судовага працэсу аб ліквідацыі «Нашай Нівы». Той працэс пакуль спынены, бо Рэдакцыя скарысталася правам абскардзіць папярэджанне.

У часе суда прадстаўнікі Мінінфа настойвалі, што дзейнічаюць правільна. Аргументы Рэдакцыі — што ўдакладненая інфармацыя з'явілася на сайце і ў наступным нумары «НН» вельмі аператыўна; што ніякіх праяваў «парушэння» і «падрыву даверу» не назіралася, што само разуменне «грамадскіх інтарэсаў» не мае канкрэтнага акрэслення ў заканадаўстве — не былі ўзятыя судом пад увагу.

Рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Скурко прапанаваў Мінінфармацыі аналагічна дзейнічаць і ў адносінах да дзяржаўных СМІ: «Усе мінулыя месяцы дзяржаўныя СМІ шырока пісалі пра эканамічную сітуацыю ў краіне. У прыватнасці, пісалі, што ў краіне не будзе вялікай разавай дэвальвацыі. Дэвальвацыя адбылася. Больш чым на 50 працэнтаў. Страты людзей склалі каля мільярда даляраў. Шкода грамадскім інтарэсам відавочная, падрыў даверу да дзяржаўных органаў таксама відавочны. Ці думае Мінінфармацыі рэагаваць на гэта?»

Прадстаўніца Міністэрства інфармацыі парыравала: «Я папрашу суд не адказваць на пытанні, якія не з'яўляюцца прадметам сённяшняга разбору».

Рэдакцыя будзе абскарджваць прысуд у касацыйнай інстанцыі Вышэйшага гаспадарчага суда.

**Рэд.**

## З пошты Рэдакцыі

Вялікі дзякуй вам усім за тую працу, якую вы робіце! Тое, што вас хочуць зачыніць, — гэта вельмі прыкра, плюс да ўсяго — неразумна!

У такім разе трэба зачыняць увесь інтэрнэт, а таксама межы (бо вядома, можна друкавацца, напрыклад, у Расіі ці Літве).

Прага ўладаў спыніць выпуск «Нашай Нівы» ды «Народнай Волі» толькі дадае папулярнасці гэтым выданням. Прыклад: мой знаёмы, прадавец кампакт-дыскаў, пры адной з сустрэч сказаў: «Слухай, такі цікавы сайт знайшоў — nn.by — там столькі ўсяго — і навіны, і музыка, і спорт. А я яму кажу: «Дык гэта ж сайт «Нашай Нівы».

«Так? Гэта тая, якую хочуць зачыніць? Буду купляць з прынцыпу».

**Сяржук В., Гродна**

# Загадкі Плошчы

Ад падзеяў 19 снежня прайшло ўжо больш за пяць месяцаў. Мінулі суды над кандыдатамі. Трое з іх апынуліся ў зняволенні на доўгі тэрмін. Некаторыя ж атрымалі ўмоўнае пакаранне. Тым не менш, на пэўныя пытанні, звязаныя з Плошчай, адказаў усё яшчэ няма. На адны, магчыма, адказы атрымаем толькі пасля выхаду з турмы ўсіх вязняў. На іншыя — толькі пасля адкрыцця архіваў спецслужбаў.



ДЗЯНІС КАРПЕНКА

### Загадка №1. Хто і нашто збіў Някляева?

Кандыдата ў прэзідэнты, лідара кампаніі «Гавары праўду» Уладзіміра Някляева збілі ля офіса арганізацыі на Калектарнай, калі шэсце рухалася да Кастрычніцкай плошчы. Супрацоўнікі ДАІ перагарадзілі калоне дарогу яшчэ ў той момант, калі ішло афіцыйнае галасаванне. Потым наляцелі людзі ў чорным. Дасталася ўсім, але Някляеву больш за астатніх. Яго са страсеннем мозгу даставілі ў Бальніцу хуткай дапамогі.

Існуе некалькі найбольш распаўсюджаных версій гэтага здарэння.

I. У дэманстрантаў проста спрабавалі забраць гукаўзмацняльную тэхніку. Калі ж збівалі Някляева, то не разлічылі з сілай.

II. Някляева выключылі з гульні планамерна. Аляксандр Фядута выказаў здагадку, што гэта маглі быць сілы, зацікаўленыя ў радыкалізацыі Плошчы. Палітэхнолаг кажа, што «Гавары праўду» была зацікаўленая толькі ў мірным развіцці Плошчы. Значыць, некаторыя іншыя кандыдаты былі настроены больш рашуча. Гэта можа тлумачыць той факт, што збіцця пазбег Мікола Статкевіч, які ішоў у той самай калоне. Такім чынам, калі быў выключаны Някляеў, то ініцыятыву ў свае рукі амаль бесперашкодна бралі больш радыкальныя кандыдаты.

III. Праз пару дзён пасля Плошчы быў звольнены начальнік «Алмаза» Карпянкоў. Не выключана, што гэтая адстаўка таксама магла быць звязаная са збіццём Някляева. Карпянкоў лічыўся блізкім сябрам былога міністра Уладзіміра Навумава. Таго самага Навумава, які працуе ў маскоўскай фірме, гендырэктара якой прызначае асабіста Уладзімір Пуцін. Карпянкоў з Навумавым разам пачыналі ў «Алмазе», потым працавалі ў ахове Лукашэнкі. Праз Карпянкова, кажуць некаторыя, Масква магла паўплываць на ходу Плошчы, сарваўшы мірны вынік і тым самым прызнанне выбараў Еўропай.

Па нашых звестках, некаторыя з актывістаў «Гавары праўду» на наступныя дні пасля выбараў мелі авіябілеты на паўднёвыя курорты. Гэта значыць, што да доўгага супрацьстаяння яны не рыхтаваліся. Паводле словаў Фядуты, кампанія была зацікаўленая ў мірнай Плошчы, як і Лукашэнка.

### Загадка №2. Хто павёў людзей на плошчу Незалежнасці?

Стаяць на Кастрычніцкай доўгі час людзі не маглі. Па-першае, вялікая частка пляца была залітая коўзанкай. Па-другое, раўла музыка, што нават побач з выступоўцамі было мала што чуваць. Па-трэцяе, кандыдаты баяліся паўтарыць «памылку Мілінкевіча», г.зн. стаяць на месцы.

Мікола Статкевіч тады заклікаў: «Давайце пойдзем, папросім Лукашэнку вызваліць гэты будынак». Журналісты зразумелі гэта як заклік ісці да Адміністрацыі прэзідэнта, кінуўшыся ў сквер у бок Дома афіцэраў. Тым часам калона, заняўшы праезную частку праспекта, накіравалася да плошчы Незалежнасці.

Кандыдаты і даверaныя асобы былі далёка не наперадзе калоны. На нейкі час яны яшчэ спыніліся на скрыжаванні з Энгельса, каб весці перамовы з супрацоўнікамі ДАІ. Што рабілася наперадзе, хто вёў за сабой калону, незразумела.

Не выключана, што гэта маглі быць загадзя падрыхтаваныя правакатары, якія заклікалі людзей у падрыхтаваную пастку. Але магчыма, гэта былі нейкія людзі Саннікава ці Някляева.

«Усё пайшло па плану Саннікава», — сказаў у інтэрв'ю «НН» Дзмітры Ус.

### Загадка №3. Ці быў у кандыдатаў план?

Аляксандр Фядута расказаў, што кандыдаты меліся дамагацца сустрэчы з Сяргеем Сідорскім. Весці з ім перамовы, як з чалавекам, якому належыць улада пасля таго, як не абіраюць прэзідэнта. Кандыдаты планавалі націснуць на кнопку ў Доме ўрада, а адтуль да іх мусіў спусціцца дзяжурны. Менавіта яму і павінны былі перадаць рэзалюцыю. Мітынгоўцы ж мусілі стаяць да той пары, пакуль Сідорскі не дасць адказ.

Выглядае, што гэткі план быў узгоднены паміж Някляевым і Саннікавым. Але Някляева на Плошчы не было, таму выконваць яго мусіў адзін Саннікаў. «Да плошчы Незалежнасці ўсё ішло па плану», — кажа Фядута. Але замест мірнай перадачы пачалося біццё шыбаў.

Між тым, Віталь Рымашэўскі на судзе над Андрэем Саннікавым у паказаннях казаў, што на прыступках Дома прафсаюзаў было дамоўлена ісці да будынка Адміністрацыі прэзідэнта, узяўшы яго ў людскае кола, каб не даць біць шкло.

«План сабрацца на плошчы і пайсці да будынка Адміністрацыі прэзідэнта, каб стаць вакол яго ў ачапленні, — пацвярджае кандыдат ад БНФ Рыгор Кастусёў. — Гэта не план Кастусёва, яго ведалі і збіраліся прытрымлівацца ўсе кандыдаты, што сабраліся 19 снежня на плошчы Каліноўскага».

Які быў план Статкевіча, абсалютна невядома. Напярэдадні ён казаў, што гэта будзе залежаць ад той колькасці людзей, што прыйдзе на Плошчу.

Выглядае, што такія кандыдаты, як Рымашэўскі, Кастусёў ці Міхалевіч, зусім не ведалі пра план Саннікава—Някляева ісці да Сідорскага.

### Загадка №4. Адкуль узяліся рыдлёўкі?

Раней выказвалася думка, што за пачаткам штурму Дома ўрада стаялі правакатары. Менавіта яны першымі пачалі біць дзверы будынка, а ўжо потым за імі пабеглі ўдзельнікі акцыі.

Многія блогеры спрабавалі знайсці правакатараў сярод тых людзей, што стаялі на ганку Дома ўрада. Першым такім быў названы агент «Навушнік» Уладзімір Хамічэнка. Хлопец, які выйшаў з турмы за два тыдні да Плошчы. Ён ніколі не быў у апазіцыі. Хамічэнка выхоўваўся ў інтэрнаце. Ёсць пытанні і да псіхічнага развіцця хлопца.

Вядома, што такога чалавека спецслужбы маглі скарыстаць у сваіх мэтах. Потым былі іншыя спробы знайсці правакатараў. Па неасцярожнасці называліся імёны Аляксандра Малчанава і Віталя Мацукевіча, якія потым былі асуджаныя.

З Мацукевічам увогуле атрымалася прыкрая сітуацыя. Яго асудзілі, у тым ліку, на аснове паказанняў некаторых дэмакратычных актывістаў, а таксама сяброў, якія такім чынам ратавалі сябе. Яго многія паспелі залічыць да правакатараў.

Многія гіпотэзы пра правакатараў грунтаваліся на звычайных інфармацыйных зліваx, таму да іх трэба ставіцца гранічна асцярожна.

Болей правакатараў знайсці не ўдалося. Натуральна, што для пачатку «штурму» дастаткова было нанесці некалькі першых удараў па шклу, якія не паспелі зафіксаваць рэпарцёры, пасля чаго ўжо спрацаваў эфект натоўпу.

Дык вось, на некаторыя пытанні суды адказаў так і не далі. Фатографамі было зафіксавана, як нейкі немалады мужчына нёс да ўвахода ў Дом урада некалькі рыдлёвак. Пры гэтым выглядаў ён абсалютна спакойна, ніхто яму не перашкаджаў. На судах не прагучала, што гэта быў за чалавек. Нікому ў віну не паставілі прыцягнутыя на Плошчы рыдлёўкі. Пры гэтым, што характэрна, усе суддзі, як адзін, дакладней, як адна, бо судзілі палітвязняў адны жанчыны, адмовілі ў хадайніцтве адвакатаў абароны прагледзець запісы камер відэаназірання Дома ўрада.

**Зміцер Панкавец**

**Ад рэдактара.** Разабрацца ў загадках Плошчы важна, каб зразумець, хто быў хто. Разам з тым, мы лічым, што ўсе палітвязні мусяць быць вызваленыя. Незалежна ад чыіхсьці планаў, Плошча сабралася, бо людзі выказвалі свой пратэст супраць парушэнняў дэмакратыі і правоў чалавека.

## Ізноў «жастачайшым образам»

### Лукашэнка загадаў спыніць цэны і зачыніць СМІ.

27 мая Лукашэнка правёў нараду па эканамічнай сітуацыі ў краіне. Свайго раздражнення ён не хаваў. Нярэдка пераходзіў на крык.

«Усякі рост цэнаў павінен жастачайшым чынам спыняцца. Няма тавараў, на якія трэ было б павысіць цэны», — крычаў ён на ўрадоўцаў. Мясніковічу і Пракаповічу абяцаў адстаўку, калі сітуацыя не нармалізуецца.

Старшыня Нацбанка Пятро Пракаповіч засвяціўся на той нарадзе, пасля зноў злёг з хваробай. Лукашэнка аддаў загад працаваць па «30—50 гадзін у суткі», калі хочам выйсці з крызісу.

Ён заклікаў да яшчэ большай дысцыпліны. Пацвердзіў, што андропаўскія праверкі ў крамах будуць працягвацца. Тых, каго злавілі, — адразу звальняць.

У правакаванні крызісу Лукашэнка абвінаваціў расійскія СМІ. «Больш за ўсё істэрыі ў расійскіх сродках масавай інфармацыі. Я назіраў і за нашымі замежнымі СМІ, якія тут, дзякуючы Адміністрацыі прэзідэнта, сталі пануючымі, і за замежнымі. На другім месцы — нашы, якія выдаюцца тут. Я не буду іх называць, каб не ствараць ім рэйтынг. Але зрабіце ўсё, каб больш гэтыя СМІ не прысутнічалі на нашай тэрыторыі».

Цяжка зразумець, каго ж менавіта меў на ўвазе Лукашэнка пад «нашымі» замежнымі. У Маскве ж на выпады адрэагавалі хутка. Ананімная крыніца ў Крамлі паведаміла «Інтэрфаксу», што ў выпадку закрыцця СМІ не ўбачаць беларусы крэдыту.

Лукашэнка спрабаваў запэўніць, што масавай прыватызацыі, на якой настойвае Расія, не будзе. Усе буйныя прадпрыемствы застануцца дзяржаўнымі. Цікава, што ў той самы дзень Пуцін агучыў, што пакупка «Белтрансгаза» амаль узгодненая.

На нарадзе былі агучаныя цікавыя лічбы закрытага сацыялагічнага апытання, хто ж вінаваты ў крызісе. Дык вось, калі верыць Лукашэнку, 25% людзей адказалі, што яны самі вінаватыя, і толькі 10% — што Лукашэнка.

**Зміцер Панкавец**

## Абама: Мы будзем аказваць на Беларусь максімальны ціск

Польскую сталіцу з афіцыйным візітам наведаў прэзідэнт ЗША Барак Абама. На перамовах з Браніславым Камароўскім і Дональдам Тускам гучала беларускае пытанне.



Прынамсі, Камароўскі зазначыў, што яны размаўлялі пра арыштаванага ў Гродне журналіста «Газеты Выборчай» Андрэя Пачобута.

«Мы абмяркоўвалі сітуацыю ў Беларусі — яна непрымальная. Прэзідэнт Лукашэнка не звяртае ніякай увагі на дэмакратычныя прынцыпы, на законы, звязаныя з правамі чалавека. Трэба чыніць ціск на Беларусь, каб яна змяніла стаўленне да гэтых тэмаў. Мы будзем аказваць на Беларусь такі ціск, які толькі магчыма», — сказаў Абама пасля размовы з прэм'ерам Тускам.

«У такіх дыктатур, як лукашэнкаўская, няма будучыні», — дадаў Туск.

**ЗП**

# Бартарная эканоміка

«Беларусбанк» вымушаны прадаваць тавары сваіх даўжнікоў — дываны, пладовае віно і нават парасят.

Адзін з галоўных банкаў краіны, «Беларусбанк», выдае безліч льготных крэдытаў на падтрымку занядбаных прадпрыемстваў. Тыя вярнуць грошы не могуць, а бюджэтная падтрымка прыходзіць далёка не заўсёды. У такіх выпадках банк спрабуе спаганяць крэдыт праз суд, але прадпрыемства-банкрут разводзіць рукі — няма грошай! У выніку «Беларусбанк» мусіць самастойна рэалізоўваць прадукцыю беларускіх фабрык і заводаў, атрыманую ў кошт доўгу.

### 15 тысяч дываноў

У апошнія тыдні ў цэнтры ўвагі беларусбанкаўскага кіраўніцтва аказаліся дываны. ААТ «Дываны Брэста» — адзін з лідараў айчыннага рынку, 99% акцый належыць «Беллегпраму». Яшчэ ў 2008 годзе прадпрыемства было вінавата «Беларусбанку» больш за $2 мільёны. Судовая валакіта цягнулася год за годам, доўг рос, але ўрэшце банк атрымаў замест грошай права на продаж будынка фабрыкі і дываны. Па папярэдніх падліках, іх больш за 15 тысяч. Напрыклад, адна з філіяў «Беларусбанка» ў абласным цэнтры атрымала на рэалізацыю 345 дываноў. Старшыня праўлення банка Надзея Ермакова ўзялася за распаўсюд усур'ёз.

«Некалькі тыдняў таму, калі ў нашае аддзяленне прыязджаў інкасатар, ён пацікавіўся, ці прывезлі нам нашы дываны, — расказаў «НН» адзін з касіраў «Беларусбанка». — Тады супрацоўнікі не зразумелі ягоны «жарт», але цяпер да нас прыйшоў спецыяльны ліст».

### Дэматыватары працы

Кожнае аддзяленне атрымала ліст «Аб рэалізацыі дыванowай прадукцыі» з наступным зместам:

«...установамі банка праводзіцца праца па рэалізацыі дываноwай прадукцыі ААТ «Дываны Брэста», прынятай у якасці адступнога. Начальнікам філіялаў ... усталяваць асабісты кантроль за рэалізацыяй дадзенай прадукцыі ў максімальна кароткія тэрміны.

Улічваючы неабходнасць інфармавання кіраўніцтва банка, філіялам ... варта штотыдзень па панядзелках падаваць інфармацыю аб рэалізацыі прадукцыі».

Але каму трэба дываны коштам 100—150 тысяч рублёў? Паводле інфармацыі «НН», кіраўніцтва некаторых аддзяленняў «Беларусбанка» прыняло «саламонава рашэнне» — найлепшыя супрацоўнікі атрымаюць замест прэміі дываны!

### Пладовае, але надта выгаднае

Але не дыванамі адзінымі. Часам мінскім супрацоўнікам «Беларусбанка» падвозілі недарагую бульбу і нават рыбу — усё ў кошт ранейшых крэдытаў. Поўны спіс прадукцыі, якую прадае банк, прымушае схапіцца за галаву.

Напрыклад, у філіял №121 «Беларусбанка» ў Пінску можна звяртацца па дармовы алкаголь. Прадаецца 600 тысяч паўлітровых бутэлек пладовага віна па 2000 рублёў і яшчэ 360 тысяч бутэлек па 0,7 л за 2800 рублёў. Агулам — амаль мільён бутэлек! Столінскі філіял №124 прадае 250 тысяч бляшанак кабачковай ікры і 50 тысяч шклянак з баршчом па 1800 рублёў. А ў Баранавічах на рэалізацыю выстаўленыя сокі.

Аўтапарк на распродажы складаецца з дзясятка трактароў «Беларус», раскіданых па ўсёй краіне і нават аднаго «Кадзілака» 2000 года выпуску, які знаходзіцца ў Слоніме.

Нарэшце, у Маладзечанскім раёне прадаюцца «свінні жывой вагі». Парасяты, якіх толькі аднялі ад свінаматкі, каштуюць усяго 13 500 рублёў за кілаграм, а свінні «групы дарошчвання» — па 10 000 рублёў.

**Яўген Васількоў**



Пасля дэвальвацыі валюта так і не з'явілася. Каля гіпермаркета «Прастор» у чарзе за далярамі адзначаюцца некалькі сотняў людзей.

PHOTO.BYMEDIA.NET

## Укладчыкі згубілі на дэвальвацыі $1,63 мільярда

Дэвальвацыя нанесла сакрушальны ўдар не толькі за заробках беларусаў, але і па іх ашчаджэннях.

54%-ная дэвальвацыя адкінула памер укладаў у даляравым эквіваленце на некалькі гадоў назад.

Па стане на 1 мая 2011 аб'ём тэрміновых дэпазітаў фізічных асобаў складаў 6,95 трыльёна рублёў. Калі пералічваць іх па перадддэвальвацыйным курсе даляра, то гэта $2,2 мільярда. Па новым курсе гэта ўсяго $1,4 мільярда. Страты склалі 780 мільёнаў!

Калі ж улічваць яшчэ і тэрміновыя дэпазіты юрыдычных асобаў, памер якіх усяго на 9% большы за дэпазіты фізічных асобаў, то агульныя страты укладчыкаў дасягаюць $1,63 мільярда.

Суцяшэннем можа лічыцца той факт, што на валютных дэпазітах застаюцца $5,1 мільярда.

**ЯВ**

# Даляр вяртаецца ва ўнутраныя разлікі

Турфірмы і запраўкі гатовыя прымаць наяўную валюту.

Нацбанк дамовіўся з урадам наконт больш актыўнага выкарыстання замежнай валюты ва ўнутраных разліках у краіне. У якасці кірункаў, дзе будзе пашырана выкарыстанне даляра, называецца рознічны гандаль нафтапрадуктамі і звадкаваным газам (запраўкі), турыстычная дзейнасць, аказанне паслуг фізічным асобам-нерэзідэнтам у гатэлях, санаторыях, прафілакторыях, турбазах, аказанне ім медыцынскіх і адукацыйных паслуг і «іншыя кірункі».

Рашэнне тлумачыцца проста — у краіне катастрафічна бракуе валюты, таму ўлады гатовыя ісці на любыя крокі, абы прыцягнуць дадатковыя паступленні. Цяпер грамадзяне Беларусі змогуць атрымліваць безнаяўныя валютныя пераводы ад продажу ім тавараў, інфармацыі, правоў на інтэлектуальную ўласнасць, ад здачы маёмасці ў арэнду, ад аказання паслуг, за адчужэнне нерухомасці.

Мінулыя некалькі гадоў Нацбанк змагаўся за дэдалярызацыю беларускай эканомікі, паслядоўна змяншаючы сферу выкарыстання замежнай валюты ва ўнутраных разліках. Валютны крызіс прымусіў перагледзець падыходы.

Асабліва востра паўстала пытанне з запраўкамі. Ні для кога не сакрэт, што для кіроўцаў з суседніх краінаў стала надзвычай выгадна прыязджаць у Беларусь, мяняць валюту па чорным курсе, запраўляць поўны бак і ў дадатак закупляць мясцовых тавараў. Цяпер на іх шляху выстаўляецца перашкода. «Продаж паліва ў аўтамабілі з небеларускімі нумарамі магчымы толькі ў замежнай валюце», — ліст з такім зместам распаўсюджаны кіраўніцтвам канцэрна «Белнафтахім». Прычым аператары запраўак будуць несці персанальную адказнасць за невыкананне даручэння.

Такой «рэформай» «Белнафтахім» яшчэ больш паспрыяе ўмацаванню чорнага рынку паліва і карупцыі на запраўках. Няма сумневаў, што жыхары прымежных тэрыторый будуць перапрадаваць замежнікам паліва па ўзаемавыгадным курсе.

**ЯВ**

## Пенсіі выраслі на 80 тысяч рублёў

З 1 чэрвеня беларускія пенсіі павысяцца ў сярэднім на 13,7%.

Адпаведны ўказ быў падпісаны кіраўніком дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам.

З улікам павышэння пенсіі ў сярэднім вырастуць на 80 500 рублёў і дасягнуць 669 800 рублёў. Гэта $134 па афіцыйным курсе. Да дэвальвацыі сярэдні памер пенсій складаў $190 у эквіваленце.

Такая даплата будзе каштаваць бюджэту больш за $40 мільёнаў штомесяц. Да канца года давядзецца выдаткаваць амаль $300 мільёнаў.

**ЯВ**

### Сціслa

• **За май беларусы знялі з укладаў трыльён рублёў.** У пераводзе на даляры па старым курсе гэта больш за $325 мільёнаў.

• **Стаўка рэфінансавання — 16%.** З 1 чэрвеня яна павышаная на 2%. Гэта чацвёртае павышэнне стаўкі рэфінансавання з пачатку гэтага года. У выніку стаўка вярнулася на ўзровень вясны 2005 года. Гэта павінна павялічыць даходнасць ад укладаў у рублях, аднachасова павысіцца і кошт крэдытаў.

• **Пайшла прыватызацыя.** Беларусь кудысьці прадала свой пакет у «Міжнароднай калійнай кампаніі». Сярод патэнцыйных купцоў, з якімі ішлі перамовы, былі замежныя кампаніі. Беларусі належыць 100% акцый «Беларуськалія», які валодаў 33% пакета акцый ЗАТ «Міжнародная калійная кампанія».

• **Цукар — 5000 рублёў.** З 28 мая кошт кілаграмовай упакоўкі цукру складае 5000 рублёў. Раней яна каштавала 3600 рублёў. Рост цаны склаў каля 40%. Інфармацыя пра падаражанне выклікала ажыятаж у крамах. Людзі скуплялі па 15—20 кілаграмаў цукру.

• **Гарэлка — плюс 10%.** З 28 мая рознічная цана на гарэлку павышана на 10%. Цяпер бутэлька ёмістасцю 0,5 літра будзе каштаваць 9520 рублёў. Раней — 8650 рублёў.

**ЯВ**

# Тых, хто не каяўся, на ўзмоцнены рэжым

27 мая вынеслі прысуд па справе мінскіх анархістаў.

Ігар Аліневіч асуджаны на 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля. Мікалай Дзядок — на чатыры гады і шэсць месяцаў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Аляксандр Францкевіч — на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, Максім Веткін пакараны чатырма гадамі абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу («хімія»), Яўген Сілівончык — 1,5 годам абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу.

Суд даў толькі трохі меней, чым прасіў пракурор Артур Мірошнік. Ён патрабаваў прысудзіць Дзядка да шасці гадоў калоніі, Аліневіча — да дзевяці гадоў з канфіскацыяй аўтамабіля, Францкевіча — да пяці гадоў, Веткіна — да чатырох гадоў абмежавання волі, Яўгена Сілівончыка — да трох гадоў абмежавання волі.

Юнакоў вінавацілі ў розных злачынствах: ад нападу на дзяржаўныя ўстановы да іх падпалу. Шкоду, нанесеную іх дзеяннямі, ацанілі амаль у 100 млн рублёў, якія асуджаным давядзецца сплачваць.

### Палітвязні ці не?

«Тут існуе градацыя, — кажа праваабаронца Алег Гулак, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта. — Ёсць палітвязні па вызначэнні экспертаў Рады Еўропы — калі парушэнні ў справе адбываюцца па палітычных матывах. А па вызначэнні Міжнароднай амністыі ёсць вязні сумлення — калі людзі церпяць за свае мірныя перакананні. Калі анархісты мелі дачыненне да сілавых дзеянняў, то яны ніяк не могуць быць вязнямі сумлення. На папярэднім следстве па іх справе было дапушчана шмат парушэнняў, у тым ліку парушалася права на адваката. І мы пакуль разбіраемся, ці можна асуджаных анархістаў лічыць палітвязнямі».



Мікалай Дзядок (злева), Аляксандр Францкевіч, Ігар Аліневіч.




Спаленая машына на тэрыторыі расійскага пасольства ў Мінску.

### Пасольства, Генштаб, Акрэсціна

Анархісты прыцягнулі да сябе ўвагу шэрагам яркіх акцый у 2009 і 2010 г. 3 кастрычніка 2009 года яны зладзілі перформанс супраць «палітыкі прымусовай алкагалізацыі насельніцтва»: замкнулі дзверы віна-гарэлачнага аддзела мінскага ўніверсама «Талін» ланцугом з замком. Сцены ля крамы распісалі антыалкагольнымі надпісамі. Вядома, за гэтае праваparушэнне з гумарыстычным налётам ніхто не сеў. Затое наступныя эпізоды разглядаліся ў рамках крымінальнага заканадаўства.

19 верасня 2009, на другі дзень беларуска-расійскіх вайсковых вучэнняў «Захад-2009», пад будынкам Генеральнага штаба прайшло атымілітарысцкае шэсце. Анархісты калонай прайшлі па вуліцы Камуністычнай. На тэрыторыю Генштаба кінулі дымавую шашку, а на агароджу павесілі плакат «Народ галадае, ваенныя гуляюць. Вайна ўладам!».

Напад на пасольства Расіі ў Мінску адбыўся 30 жніўня 2010 года. На тэрыторыю пасольства закінулі два «кактэйлі Молатава», у выніку чаго згарэў аўтамабіль. Гэтай акцыяй анархісты выказалі пратэст супраць рэпрэсій у адносінах да актывістаў, якія сталі на абарону далёкага Хімкінскага лесу ў Маскве.

А падпал дзвярэй ізалятара на Акрэсціна 6 верасня 2010 года быў здзейснены ў знак пратэсту супраць затрымання анархістаў, падазраваных у нападзе на расійскае пасольства. У распаўсюджанай заяве гаварылася, што ўлады пачалі арыштоўваць без разбору ўсіх, хто падзяляе ідэі анархізму.

### Адны — падсудныя, іншыя — сведкі

Па гэтых і іншых эпізодах на лаве падсудных апынуліся пяць чалавек. Некаторыя з іх правялі пад вартай дзевяць месяцаў.

На судовым працэсе было шмат пытанняў без адказаў. Найперш, калі ў зале суда пачалі з'яўляцца сведкі, якія заяўлялі пра свой удзел у акцыях анархістаў. Выйшла, што адны ўдзельнікі — за кратамі, іншыя — сведчаць супраць іх. І ў выніку ўсё абвінавачванне было пабудавана на паказаннях тых сведак. Прычым на судзе яны заявілі пра фізічны і псіхалагічны ціск з боку міліцыянтаў. А двое адмовіліся ад ранейшых паказанняў: маўляў, пад страхам расправы агаварылі анархістаў. Але на прысуд гэта не паўплывала.

Пра ціск заявіў і Мікалай Дзядок. Так, адзін з допытаў праводзілі пасля таго, як малады чалавек не спаў двое сутак. Аляксандр Францкевіч паведаміў, што яму падчас следства прапаноўвалі агаварыць Дзядка. А калі ён адмовіўся, то, паводле яго словаў, «вырашылі пасадзіць на рэальны тэрмін». Дзядок, Францкевіч, Аліневіч вінаватымі сябе не прызналі. Веткін і Сілівончык — часткова. Апошнія і ў сваіх выступах папрасілі суд абмежавацца «хіміяй». Суддзя Жанна Хвайніцкая прыслухалася. І ў выніку тэрміны атрымаліся такія розныя.

### «Усіх не перасаджаеце!»

У апошнім слове Ігар Аліневіч сказаў, што ў нашай краіне можа беспадстаўна быць абвінавачаны кожны анархіст, удзельнік руху ці той, хто спачувае. Па яго словах, тое адбылося і з імі. Па меркаванні Аліневіча, падчас суда яго спрабавалі выставіць арганізатарам усіх акцый без доказаў на тое.

«Усім вы раты не заткнеце, усіх не перасаджаеце!» — так звярнуўся да «карных органаў» Дзядок.

Аляксандр Францкевіч казаў, што не лічыць судовую сістэму краіны незалежнай. А іх працэс трэба разглядаць у адным шэрагу з судамі над удзельнікамі падзей 19 снежня: «Наш працэс мае палітычны характар».

**Сяргей Макарэвіч**

### У чым абвінавачвалі

**Мікалая Дзядка** — у арганізацыі антымілітарысцкага шэсця пад Генеральным штабам РБ 19.09.2009 (ч.2 арт.339 КК), нападзе на казіно «Шангры Ла» 5.12.2009 (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК), на будынак Федэрацыі прафсаюзаў 30.04.2010 (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК).

**Ігара Аліневіча** — у арганізацыі антымілітарысцкага шэсця пад Генеральным штабам РБ 19.12.2009 (ч.2 арт.339 КК), нападзе на казіно «Шангры Ла» 5.12.2009 (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК), падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка» 31.05.2010 (ч.2 арт.339 і ч.3 арт.218 КК), нападзе на пасольства Расіі ў Мінску 30.08.2010 (ч.2 арт.339 і ч.3 арт.218 КК) і нападзе на ізалятар на Акрэсціна 6.09.2010 (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК).

**Аляксандра Францкевіча** — у арганізацыі антымілітарысцкага шэсця пад Генеральным штабам РБ 19.09.2009 (ч.2 арт.339 КК), нападзе на апорны пункт міліцыі ў Салігорску 9.03.2010 (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК) — здымаў на відэа, на будынак Федэрацыі прафсаюзаў 30.04.2010 (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК), узломе сайта гарвыканкама Наваполацка (ч.2 арт.349, арт.354, ч.2 арт. 351 КК).

**Максіма Веткіна** — у падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка» 31.05.2010 (ч.2 арт.339 і ч.3 арт.218 КК) — здымаў на відэа, у нападзе на расійскае пасольства 30.08.2010 (ч.2 арт.339 і ч.3 арт.218 КК).

**Яўгена Сілівончыка** — у нападзе на апорны пункт міліцыі ў Салігорску 9.03.2010 — разбіў шыбу (ч.2 арт.339 і ч.2 арт.218 КК).

# «З іх вырашылі зрабіць арганізатараў анархісцкага руху»

Пра асуджанага Мікалая Дзядка расказвае яго дзяўчына.

**«НН»: Лера, ці спадзяваліся на апраўданне?**

**Лера:** Калі прайшлі першыя месяцы ўтрымання Колі пад вартай, я думала, што яму дадуць пяць гадоў. Але для мяне было нечаканасцю, што суддзя па артыкуле 218 ч. 2 апраўдала яго. Насамрэч не было доказаў пашкоджання маёмасці полымем, як абвінавачвалі.

**«НН»: Чым Вы можаце патлумачыць такі тэрмін?**

**Л:** Людзі, якія прызнавалі свой удзел у акцыях анархістаў, што кідалі фаеры, праходзілі сведкамі. А ў гэтых пяці спецслужбы пабачылі арганізатараў анархісцкага руху. Хаця ўсё гэта на працэсе разляцелася. Нават сведкі казалі, што ў анархісцкім коле рашэнні прымаюцца сумесна. І ніякіх арганізатараў няма. Для следства гэта было цяжка ўявіць. Упершыню яны сутыкнуліся з тым, калі няма чалавека, адказнага за ўсё.

**«НН»: Мікалая ўзялі пад варту 3 верасня 2010 года. Увесь гэты час з ім была сувязь, лісты пісаў?**

**Л:** Калі ён знаходзіўся ў ізалятары на Акрэсціна, да 24 верасня не было магчыма з ім ліставацца, бо там паперу і асадкі не даюць. І таму дзіўнымі падаваліся словы пракурора на судзе, які пытаўся, чаму Мікалай не пісаў скаргі. Мы кантактавалі толькі праз адваката. А пасля 24 верасня ліставанне наладзілася. Праўда, калі Колю ў Жодзіна перавялі, ліст тыдзень ішоў да яго і пасля тыдзень ад яго.

**«НН»: Да арышту Мікалай вучыўся ў ЕГУ.**

**Л:** Ён скончыў юрыдычны каледж. А па яго заканчэнні паступіў на 3 курс юрфака БДУ, на завочнае аддзяленне. Правучыўся год і кінуў, бо яму там не падабалася. Паступіў на завочнае ў ЕГУ па спецыяльнасці «Паліталогія».

Ён цікавіўся не толькі ідэямі анархізму. Пры ператрусе ў нас на кватэры знайшлі шмат кніжак Леніна, пра нацыяналізм і г.д. Следчыя былі шакаваныя такой «сумессю».

**«НН»: 4,5 года — тэрмін працяглы. Будзеце чакаць?**

**Л:** Канечне. У мяне было дастаткова часу падумаць, ці змагу я. Вырашыла чакаць. Я нават палічыла, што праз 2\3 тэрміну можна спрабаваць вызваліцца ўмоўна-датэрмінова. Дзевяць месяцаў ён ужо адсядзеў. Цяжка, што гэта будзе ўзмоцнены рэжым. Гэта значыць, дазваляюцца толькі два доўгатэрміновыя спатканні на год (пры агульным рэжыме — тры разы). Але калі зняволены бярэ ўдзел у самадзейнасці, выконвае працоўныя планы, то могуць перавесці на палепшаныя ўмовы. Думаю, ён будзе старацца.

**Гутарыў СМ**

# Сто гадоў турмы

Атрымалі ўдзельнікі Плошчы.

26 мая быў вынесены прысуд па справе кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса. Абвяшчэнне зацягвалася з прычыны раптоўнай хваробы суддзі Грачовай. «Хвароба» дзіўным чынам супала з чарговым рашэннем Рады міністраў Еўрасаюза па санкцыях.

За дзень да прысуду Аляксандр Лукашэнка ў Астане выказаўся, што не выключае магчымасці вызвалення палітвязняў. «Няма чаго дзяржаўныя грошы праядаць у турме, праядаць хлеб», — сказаў ён.

З гэтай нагоды чакалася, што, магчыма, прысуды не будуць жорсткімі. Тым не менш, Дзмітрый Ус прыйшоў на суд падрыхтаваным да турмы. Яго сябры неслі вялікую сумку. Праўда, у залу з ёй не пусцілі. Пад руку Ус вёў сваю старэнькую маці.

Мікола Статкевіч зноў усміхаўся. Перад пачаткам абвяшчэння прысуду ў залу запусцілі журналістаў для фота- і відэаздымак. Калі міліцыянт раз пяты нагадаў, што пара выходзіць, палітык ужо рагатаў.

Кандыдат настаяў на тым, каб прысуд зачытвалі цалкам. «Хачу паслухаць пра кактэйлі Молатава», — зазначыў Статкевіч. Слухалі дзве з паловай гадзіны пра пабітыя ягадзіцы спецназаўцаў і разбітыя вокны. Суддзя Грачова яшчэ чытала так, што мала каму ў зале нешта было чуваць.

Тым не менш, вырак пачулі. Статкевіча асудзілі на шэсць гадоў калоніі строгага рэжыму, Уса — на пяць з паловай. Апошняга ўзялі пад варту проста ў зале суда.

Жонка Уса Яўгенія на эмоцыях выскачыла ў слязах з залы яшчэ да канца абвяшчэння прысуду. Потым, відаць, пашкадавала пра гэта, бо да мужа яе больш не пусцілі.

Былому міліцыянту Аляксандру Класкоўскаму далі пяць гадоў турмы. Яго сястра таксама паднялася з месца, гукнуўшы: «Слава героям Беларусі!»

Арцём Грыбкоў атрымаў 4 гады калоніі, Аляксандр Квяткевіч — 3,5, Зміцер Буланаў — 3. Пашанцавала толькі Андрэю Пазняку — яму далі «хатнюю хімію». Арыштанты пазычылі Андрэю поспехаў.

Спачатку Пазняк у абдымку з дзяўчынай выскачыў з залы суда, адмовіўшыся ад каментароў. Потым расказаў, што паставіў за здароўе ўсіх арыштаваных свечкі ў царкве. Андрэй з Жодзіна, ягоны бацька — начальнік футбольнай каманды «Тарпеда-БелАЗ».



Мікола Статкевіч трымаўся ўпэўнена.

### «Не на таго нарваліся»

У панядзелак спатканне з мужам дазволілі жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч.

«Мікола малайчынка. Добра выглядае, у добрым настроі, — кажа Марына. — Сукамернікі вельмі добра да яго паставіліся, саступалі месца. Натуральна, што іх спрабавалі прэсаваць. Ціснулі на тое, што Мікола не курыць, а яны кураць. Казалі, што ўсім забароняць. «Нічога, здаравейшыя будзем», — адказвалі яны. Пагражалі, што будуць пераварочваць днём ложкі. Хлопцы казалі: «Будзем хадзіць», — расказвае Марына Адамовіч.

«Наконт катаванняў, то спрабавалі. Але кажа, што яму гэта было смешна. Была спроба шантажу і адносна сваякоў. Ціснулі на пачуццё віны за іншых арыштаваных сябраў каманды. Але не на таго яны нарваліся. Кажа, што Дзмітрыя Уса шкада. Далі яму столькі за тое, што прыстойна сябе павёў. Пра хлопцаў, з якімі праходзіў па справе, кажа, што яны заходзілі на працэс прыгнечанымі, а выходзілі з упэўненасцю, што яны не адны».

Такім чынам, турэмныя тэрміны зняволення па падзеях 19 снежня атрымалі 29 чалавек. Цікава, што агульны тэрмін зняволення на ўсіх склаў роўна 100 гадоў.

Павел Севярынец асуджаны на тры гады «хіміі». Абмежаванне волі без накіравання ў калонію атрымалі Зміцер Мядзведзь і Андрэй Пазняк. Расіяне Брэус і Гапонаў абышліся штрафамі. Сем чалавек атрымалі ўмоўныя тэрміны ці з адтэрміноўкай. Яшчэ пяць чалавек (Аляксандр Арастовіч, Уладзімір Кобец, Алег Корбан, Анатоль Лябедзька, Анатоль Паўлаў) суда чакаюць.

Алесь Міхалевіч і Наталля Радзіна здолелі збегчы за мяжу.

Праваабаронцы і свабодныя краіны свету лічаць усіх арыштаваных па справе 19 снежня палітвязнямі.

**Зміцер Панкавец, фота Сяргея Гудзіліна**



Жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч пасля абвяшчэння прысуда. З ёй — паверана ў справах ЕС у Беларусі Хольцапфель.




Маці Аляксандра Класкоўскага крычала: «Усіх не перасаджаеце».



Дзмітрый Ус прыйшоў у суд гатовым да турмы.



24-гадовая жонка Уса.



Маці Уса пракляла Лукашэнку проста ў судзе.

## За кратамі палітвязень Дзмітрый Дрозд зламаў нос



Гэта здарылася яшчэ ў лютым.

Як паведаміла маці Зміцера, сын нават сам не пісаў аб здарэнні. Маўляў, пра праблемы са здароўем ёй нічога не паведамляе, каб не хвалявалася. Спадарыня Зоя даведалася пра гэта ад яго знаёмых. Калі ў Зміцера запыталася, то ён адказаў, што паваліўся на прагулцы і зламаў нос.

Жанчына не ведае, ці праўда гэта. Не выключае, што нос маглі зламаць і падчас допытаў. Сумненняў у яе яшчэ больш пасля заяў Міхалевіча і Саннікава пра катаванні за кратамі.

Зміцер часта піша лісты маці. Зоя Дзмітрыеўна адзначыла, што сын трымаецца бадзёра, мяркуючы па допісах. Напісаў, што бачыў Андрэя Саннікава і Фёдара Мірзаянава. І з аптымізмам заўважыў: «Пакуль не здаёмся».

Каб не губляць час, Зміцер пачаў вывучаць польскую мову. А таксама піша новую кнігу. Цяпер, праўда, не гістарычную — доступу да крыніц няма.

Зміцера Дразда асудзілі на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму па справе аб «масавых беспарадках».

**Кастусь Матушыч**

**Маці палітвязня трэба матэрыяльная падтрымка**

Маці Зміцера Дразда Зоя ўжо на пенсіі. Сын быў яе адзінай апорай. Пасля арышту сына яна вымушана была зноў уладкоўвацца на працу — прыбіральшчыцай. Каб падтрымаць сям'ю, можна адправіць грашовы перавод.

Дрозд Зоя Дзмітрыеўна. 220104 Мінск, вул.Глебкі, 58-47.

# Што рабіць, калі вас удзень залавілі ў краме?

Пасля публічных заяваў Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што на беларускіх прадпрыемствах і ва ўстановах трэба ўзмацняць працоўную дысцыпліну, у краіне пайшлі аблавы. Кантралёры блакуюць людзей у крамах сярод дня і патрабуюць тлумачэнняў, чаму тыя знаходзяцца не на працоўным месцы.

Што рабіць, калі вы выйшлі купіць соку ў ЦУМ, а вас злавілі людзі ў цывільным?

«Нічога ім не кажыце! Маўчыце і ўсё! Нават рэстаран у працоўны час — гэта не правапарушэнне. За такое трэба даваць тлумачэнні толькі свайму наймальніку», — раіць юрыст і праваабаронца Гары Паганяйла. Ён таксама дадае, што падобная дзейнасць разнастайных кантралёраў і праваахоўных органаў — парушэнне заканадаўства.

«Ніхто не адмяняў свабоду перамяшчэння і правa на асабістае жыццё. А сачыць за працоўнай дысцыплінай павінна адміністрацыя прадпрыемства, сам працадаўца, а ніяк не міліцыя. Не адказвайце на пытанні, спасылайцеся на Канстытуцыю, пішыце скаргі на іх дзеянні — яны незаконныя. Гэта ўсё ініцыятыва на месцах. Лукашэнка сказаў, і яны пачалі дзейнічаць. Вось калі ён выдасць адпаведны указ, тады можна будзе яго разглядаць на адпаведнасць заканадаўству краіны», — гаворыць Г. Паганяйла.

**Алесь Пілецкі**

## Мы ў вас укралі мільярд, бо нашто ён вам?

### Прыкладна з такой заявай выступіла кіраўніца найбуйнейшага банка.


PHOTO.BYMEDIA.NET

«Ну вось у мяне яго [даляра] няма, і я не іду ў абменнік, мне ён проста не патрэбны, у мяне ў 90-я не было, і сёння няма, — заявіла па тэлебачанні Надзея Ермакова, старшыня праўлення «Беларусбанка» — найбуйнейшага дзяржаўнага банка краіны. — Так, абутак завозіцца імпартны, так, ён стане крыху даражэйшы, але нічога страшнага, зносім замест двух туфляў адны».

Якія ж народныя яны, беларускія банкіры. Туфлі даношваюць імпартныя...

Эканамісты падлічылі, што ў выніку дэвальвацыі ўкладчыкі страцілі каля 1,5 мільярда даляраў за кошт абясцэньвання сваіх дэпазітаў. І гэтыя паўтара мільярда не зніклі ў нікуды, бо ў нікуды нічога ніколі не знікае. Яны вытрачаныя. Імі напампоўвалася эканаміка, каб стварыць бурбалку «беларускага эканамічнага цуду». Яны вытрачаныя на выбары, на Усебеларускі народны сход, у прэзідыуме якога сядзела і мадам Ермакова (у мінулым загадчыца фінаддзела Шклоўскага райвыканкама).

Надрукавалі рублёў... І гэты сцэнар — раскулачванне насельніцтва праз інфляцыю і дэвальвацыю — паўтарaецца каторы раз.

«На дурака не нужен нож», — як спявалі ліса Аліса і кот Базіліо.

**Сяргей Гезгала**

## Хто выведзе людзей на вуліцы?

### Ідэалогія аўтарытарнага росту ляжыць у развалінах. Але дзе апазіцыя?

А гэта ж быў асноватворны міф рэжыму Лукашэнкі.

Яшчэ ніколі рэжым не быў такі слабы, як сёння, — перасвараны з Усходам і Захадам, абцяжараны 30-мільярдным замежным доўгам.

Пасля двухмесячнага маўчання ўлада вуснамі кіраўніка шматслоўна агучыла адзін рэцэпт для выхаду з крызісу — андропаўскую дысцыпліну ўзору 1984 года. Гэта выглядае так: кароль голы, але працягвае махаць шабляй.

З другога боку, сацыялогія паказвала, што напярэдадні крызісу мы мелі рэкордныя праеўрапейскія і прарынкавыя настроі. Мы маем вялікую масу думаючых грамадзянаў, зацікаўленых у змене ўлады на падсправаздачную грамадзянам і перамене правілаў гульні ў эканоміцы.

Народ адчувае сябе падманутым — і ён не памыляецца. Народ адчувае сябе абрабаваным — якое адкрыццё. У краіне нарастаюць пратэставыя настроі. Абарона студэнта-безбілетніка ад міліцыі, графіці, інтэрнэт — толькі кветачкі. Стыхійныя выступы могуць перарасці ў арганізаваны, стваральны рух.

Грамадства гатова абараняць свае правы і інтарэсы. Але дзе апазіцыя? Дзе тая апазіцыя, што так чакала «рэвалюцыйнай сітуацыі»? Не бачым яе, яна прыпыніла дзейнасць.

Да тых, хто ў турмах — Аўтуховіч, Саннікаў, Севярынец, — пытання няма. Але тыя, што на свабодзе, маюць перад сабой выклік. Калі яны ўзялі на сябе лідарства, яны абавязаны арганізоўваць грамадства на абарону сваіх інтарэсаў.

Дзе кіраўнікі шумных кампаній? Дзе старшыні партый, якія былі на другіх ролях, і дзе тыя, хто аспрэчваў у іх лідарства? Цяпер Ваш час. Дзе тыя кандыдаты, якім не хапала рэсурсаў на прэзідэнцкую кампанію? 1000 улётак — і нацыя вас будзе слухаць. Дзе вы, нацыянальныя платформы грамадзянскай супольнасці?

У краіне, дзе няма парламента, няма апазіцыі без вуліцы. Канструктыўная апазіцыя абавязана выводзіць людзей на вуліцу ў крызісныя моманты. Калі яна бяздзейнічае, яна робіцца дэструктыўнай для грамадства.

**Мікола Бугай**

**Гэты артыкул мяне папрасіў напісаць Віталь Сіліцкі. Цела ягонае скаванае цяжкай хваробай, а сэрца ўсцяж баліць за Беларусь.**

# Гадзіннік на руцэ Віктара Лукашэнкі каштуе 6500 даляраў

На адкрыцці выставы ўзбраенняў «MILEX-2011» фатографы мелі рэдкую магчымасць здымаць Віктара Лукашэнку. Выявілася, што на руцэ памочніка прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы красаваўся гадзіннік Ulysse Nardin Dual Time 42 мм коштам каля 6500 даляраў.

У абмеркаванні апублікаваных фота блогеры адзначаюць сціпласць Віктара. На Аляксандру Лукашэнку ў свой час быў заўважаны Patek Philippe Calatrava 5120j, які каштуе больш за 15 тысяч даляраў.

З іншага боку, цана гадзінніка Віктара Лукашэнкі роўная зарплаце школьнага настаўніка за два з паловай гады. Абама, ва ўсякім разе, носіць таннейшыя аксесуары.

**Паводле charter97.org.**

Нагадаем, што ў рубрыцы «Меркаванні» публікуюцца артыкулы, якія могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.


ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ

## Мітрапаліт Кандрусевіч да ўладаў і грамадства: Спыніце праявы нецярпімасці

### Зварот Арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча адносна сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

На сайце Catholic.by з'явіўся зварот Мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага. Ён піша: «У апошнія часы складаная сацыяльна-палітычная сітуацыя ў Беларусі яшчэ пагоршала ў сувязі з інфляцыяй, што выклікала вялікую занепакоенасць людзей і вядзе да рознага роду спекуляцый і выкарыстання чужой бяды дзеля нажывы. Акрамя таго, праявы нецярпімасці і шматлікія ўзаемныя абвінавачванні негатыўна ўплываюць на агульную атмасферу ў краіне. Напэўна, ёсць шмат прычын таго, што здарылася. І на гэтае пытанне трэба шукаць адказу, каб выйсці з крызісу і ў будучыні не паўтараць падобных памылак», — піша іерарх Касцёла.

Ён піша, што «дапамогай у пошуку вырашэння праблем нашага грамадства могуць служыць вельмі блізкія адно да аднаго сацыяльнае вучэнне Каталіцкага Касцёла і сацыяльная канцэпцыя Праваслаўнай Царквы» і спасылаецца на айцоў царквы.

Ён нагадвае: «Сацыяльнае вучэнне Касцёла прапаноўвае чатыры каштоўнасці, якія павінны ўвайсці ў нашае жыццё і стаць яго фундаментам: праўду, свабоду, справядлівасць і любоў». «Касцёл адказвае на галоўныя пытанні аб сэнсе і мэце чалавечага жыцця абвяшчэннем Евангелля, якое ставіць годнасць чалавечай асобы вышэй за зменлівыя меркаванні і матэрыяльныя выгоды і адначасова забяспечвае свабоду чалавека, — піша Мітрапаліт і нагадвае, што царква павінна падтрымліваць маральнасць у палітыцы. — Хаця прамым абавязкам Касцёла не з'яўляецца заснаванне справядлівых структур, бо гэта належыць да свету палітыкі, тым не менш, заданнем Касцёла з'яўляецца ачышчэнне розуму і прабуджэнне ў чалавеку маральных сілаў, без якіх існуючыя структуры не могуць эфектыўна дзейнічаць».

«Занепакоены існуючай сітуацыяй, звяртаюся да дзяржаўных уладаў, свету палітыкі, эканомікі, навукі, культуры, грамадскіх арганізацый, усіх людзей добрай волі, каб пры вырашэнні нялёгкіх сучасных праблем кіраваліся ўзаемнай любоўю і пашанай як грамадзяне аднoй краіны», — піша Арцыбіскуп.

Дарэчы, 31 мая Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў 30-годдзе святарства. Вернікі віншавалі яго і маліліся за яго ў мінскай катэдры.

**Мікола Бугай**

# «Ненавідзім рэжым!»

Скандавалі фанаты мінскага «Дынама» ў часе матча ў Бабруйску.

На футбольным матчы «Белшына» — «Дынама» (Мінск) 27 мая пасля забітага гола дынамаўцы падбеглі да трыбуны сваіх фанатаў. Тыя памкнуліся насустрач, пасля чаго АМАПаўцы пачалі адганяць фанатаў газам і адштурхоўваць. Адзін са спецназаўцаў распыліў балон са слезацечным газам. Тады фанаты пачалі скандаваць: «Ненавідзім рэжым!». Відэа з гэтым эпізодам разляцелася ў інтэрнэце.

Аказалася, што ў час інцыдэнту газ трапіў на пяцігадовага хлопчыка. Як расказаў сайту Goals.by яго бацька Юрый, тэхнічны дырэктар адной з мінскіх СТА, ён паспеў затуліць сына. У вочы газ не трапіў, але твар апякло. «Хто даў спецназаўцу права ўжываць газ?! — абураецца бацька. — Ён выдатна бачыў, што ў першым шэрагу дзіця».

Прапаршчык Уладзімір Рэцікаў тлумачыць ужыццё газу тым, што на яго бег натоўп.

У магілёўскай міліцыі таксама лічаць, што была пагроза выбягання фанатаў на поле. Аднак, як паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі Магілёўскага УУС Зміцер Паркоў, унутранае расследаванне інцыдэнту вядзецца.

Магілёўскі спецназ у гэтым футбольным сезоне ўжывае спецсродкі другі раз. На матчы паміж «Дняпром» і «Мінскам» прыезджых фанатаў таксама супакойвалі газам і дубінкамі.

**Мікола Бугай**

## Мінюст правядзе пазачарговую пераатэстацыю адвакатаў

Пра гэта гаворыцца ў загадзе міністэрства ад 30 мая, змешчаным на сайце Мінюста.

Гэта будзе чарговая мера для запалохвання адвакатаў. Нагадаем, што раней Мінюст забраў ліцэнзіі ў шэрагу выдатных адвакатаў, якія смела баранілі палітвязняў па справе Плошчы. Тады адвакацкая супольнасць праявіла салідарнасць у іх абароне, чым выклікала ярасць Міністэрства. Кіраўнікі Мінюста трапілі ў спіс неўязных у Еўрасаюз як асобы, чыя дзейнасць спрычынілася да рэпрэсій.

**Сяргей Гезгала**

## Сціісла

• **Спецкара тэлеканала «Дождь» выставілі з Беларусі на 5 гадоў за інтэрв'ю з Халіп.** Ён рабіў рэпартаж у Беларусі без акрэдытацыі. Радзівона Марынічава затрымалі ў Мінску каля парку Горкага.

Палітолаг Фядута і экс-кандыдат Някляеў прапануюць уладзе дыялог. На думку Фядуты, дыялог трэба, «таму што народныя масы будуць патрабаваць таннай грэчкі і мыла, але не пашырэння выбарчых правоў».

• **Лябедзьку трымаюць у падвешаным стане.** Расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да яго падоўжана, хоць суды за Плошчу пасканчаліся. Як паведаміў палітык, у першыя дні пасля затрымання следчыя прапаноўвалі яму напісаць «які-небудзь пакаянны ліст» або выступіць у дзяржаўных СМІ з заявай, абяцаючы ўзамен вызваленне з СІЗА. На гэта Лябедзька, паводле яго слоў, адказаў, што хутчэй «адгрызе сваю правую руку», чым выступіць з такімі заявамі.

• **Польская салідарнасць.** Галоўныя рэдактары 40 польскіх СМІ падпісаліся пад заявай, у якой затрабавалі ад уладаў Беларусі вызваліць карэспандэнта Gazeta Wyborcza гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута. У Польшчы справа Пачобута набыла вялізны рэзананс.

• **Памёр алімпійскі чэмпіён 1964 года Рамуальд Клім.** Ён доўга хварэў, было яму 78 гадоў. Рамуальд Клім нарадзіўся 25 мая 1933 года ў Нясвіжскім раёне Мінскай вобласці.

**СГ**

# Антыкрызісная мера

У Мінску правялі парад бландзінак. Аказалася, гэта вымiраючы від.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У міжнародны дзень бландзінак, які адзначаюць 31 мая, у Мінску прайшоў парад бялявых беларусак.

Беларускія бландзінкі сабраліся а 17-й гадзіне ля Нацыянальнай бібліятэкі і картэжам праехаліся цэнтральнымі праспектамі сталіцы. Месцам збору бялявых беларусак быў вызначаны гатэль «Беларусь». Адтуль бландзінкі калонай вырушылі на ўзбярэжжа Свіслачы, дзе і адбыўся імправізаваны парад. Калону ўзначалілі вядомыя беларускія «блондзі» — Іна Афанасьева і Ларыса Грыбалёва.

Міжнародны дзень бландзінак штогод адзначаецца ў апошні дзень вясны — 31 мая. Навукоўцы лічаць, што бялявы колер валасоў — з'ява вельмі рэдкая. Толькі за апошнія 50 гадоў колькасць людзей з белымі валасамі зменшылася ад 49% да 14% ад агульнай колькасці насельнікаў планеты.

Прычын тут некалькі: папершае, для нараджэння чалавека з белымі валасамі трэба, каб і бацька, і маці былі бландзінамі. Па-другое ,колькасць насельніцтва Еўропы паступова скарачаецца, а менавіта тут жыве большасць бялявых людзей. Апошні чалавек, які народзіцца бландзінам, па меркаванні навукоўцаў, будзе фінам. У Фінляндыі на сёння жыве найбольш бялявых.

**Сяргей Гудзілін**

## ЕГУ прапануе растэрміноўку

Беларускі крызіс зачапіў і незалежны ўнівер.

ЕГУ з прычыны фінансавага крызісу ў Беларусі прапануе студэнтам плаціць за навучанне ў растэрміноўку. Адпаведнае паведамленне змешчана на сайце навучальнай установы.

Дарэчы, кошты навучання ў незалежным універсітэце, што працуе ў Вільні, на 2011/2012 год на вочныя бакалаўрскія праграмы наступныя:

1. Беларусістыка: Гісторыя Беларусі і культурная антрапалогія; культурная спадчына і турызм; Паліталогія і еўрапейскія даследаванні; Сацыяльная і палітычная філасофія; Тэорыя і практыкі сучаснага мастацтва — для грамадзян Беларусі 1 200 еўра ў год, для неграмадзян РБ — 1 500 еўра.

2. Медыя і візуальны дызайн; Медыя і камунікацыя: Візуальная культура (кіно, тэлебачанне, інтэрнэт); Медыя і камунікацыя: Масавыя камунікацыі і журналістыка; Міжнароднае права — для грамадзян Беларусі — 1 500 еўра, для неграмадзян РБ — 1900 еўра ў год.

Як зазначаецца ў паведамленні адміністрацыі ЕГУ, 25% студэнтаў могуць разлічваць на гранты, якія цалкам пакрываюць кошт навучання за год; 28% могуць атрымаць зніжку памерам 800 еўра. 30% — 400 еўра. 17% плацяць поўны кошт.

**КМ**

## Здарэнні сціісла

• **Гродзенца будуць судзіць за парнаграфію на старонцы «Вконтакте».** На працягу года малады чалавек размяшчаў на асабістай старонцы сайта «Вконтакте» спасылкі на непрыстойныя відэа і абмяркоўваў у інтэрнэце пікантныя тэмы. Так, паводле яго слоў, хацелася прыцягнуць увагу іншых да сваёй персоны. Супраць яго распачалі крымінальную справу за «Выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў... з выкарыстаннем глабальнай сеткі інтэрнэт».

• **У Мінску палавілі раварыстаў.** Затрыманнем 13 чалавек скончылася 27 мая рэгулярная акцыя аматараў язды на роварах «Крытычная маса» ў Мінску. Штомесяц раварысты ладзяць такую акцыю: разам выязджаюць на вуліцы, каб паказаць, колькі іх многа, што трэба будаваць веладарожкі. Каля 70 чалавек ехалі па праспекце Незалежнасці. Іх спынілі аўтамабіль ДАІ, потым з'явіўся АМОН, раварыстаў пазабіралі і адвезлі ў Цэнтральнае РУУС.

• **МНС: ахвяры аршанскага пажару «праявілі гераізм».** Версія, што пажар на аршанскім мясакансервавым камбінаце 24 мая быў выкліканы парушэннем правілаў аховы працы, не пацвердзілася. А начальнік абласной службы МНС назваў чатырох загінулых героямі, якія ліквідавалі пажар, «аднак не ўлічылі смяротную небяспеку ўдыхання атрутных прадуктаў гарэння». Рабочыя камбіната называюць прычынай трагедыі тое, што цэх абшыты пажаранебяспечнымі пластыкавымі панэлямі, якія хутка гараць, выдзяляючы атрутны смурод.

• **З-за дрэнных дарог у 2010 годзе ў Беларусі загінулі 46 чалавек.** У мінулым годзе на дарогах краіны з-за нездавальняючых дарожных умоваў адбылося 133 ДТЗ з пацярпелымі.

**СМ**

# «За восемсот рублёў чалавека б'юць»

**У Мінску людзі атакавалі міліцыянтаў, якія разбілі галаву мужчыну.**

25 мая ў Мінску адбылося незвычайнае здарэнне. На адным з аўтобусных прыпынкаў, размешчаных ля станцыі метро «Няміга», два міліцыянты груба затрымалі чалавека. За што? Бо заступіўся за студэнта-безбілетніка. Жорсткасць затрымання абурыла людзей. Жанчыны кінуліся на міліцыянтаў. У справу быў вымушаны ўмяшацца спецназ.

«Жывёла ты!» — крычала адна з жанчын міліцыянеру, які круціў рукі схопленаму чалавеку. «Адпусціце яго! Што вы творыце? За восемсот рублёў чалавека б'юць», — абураліся людзі.

Затрыманаму супрацоўнікі праваахоўных органаў разбілі галаву да крыві.

«Я ўпершыню такое бачу, калі адразу столькі людзей выступаюць супраць дзеянняў міліцыі. Там сабралася людзей свет — ад 50 да 100 чалавек. Яны патрабавалі ў міліцыянераў адпусціць чалавека. Усё было на мяжы зрыву. Вельмі канфліктная сітуацыя», — распавёў у размове з карэспандэнтам «Нашай Нівы» фатограф Антон Матолька, які стаў сведкам падзей. «Усё адбылося ля аптэкі, пад прыступкамі, што вядуць на другі паверх гандлёвага дома «На Нямізе». Адзін з міліцыянераў закруціў рукі затрыманаму, чапляў на іх кайданкі. Другі спрабаваў стрымліваць людзей. Пасля ўмяшальніцтва большай колькасці міліцыянераў затрыманага пагрузілі ў машыну і павезлі», — дадае ён.

Іншая дзяўчына, сведка сутычкі, зрабіла непрацяглы відэазапіс і выклала яго ў інтэрнэт. За некалькі дзён ролік набраў больш за сто тысяч праглядаў.

Выпадак атрымаў розгалас. Прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкама нават была вымушаная афіцыйна яго пракаментаваць. Па версіі міліцыі, сітуацыя развівалася такім чынам: «Кантралёр у грамадскім транспарце вылавіў безбілетніка, які адмаўляўся плаціць штраф. Абуранага безбілетніка вывелі на прыпынак, дзе ён працягнуў абурацца. Кантралёр звярнулася да нарада міліцыі з просьбай паўплываць на хулігана, бо той парушае грамадскі парадак.

Міліцыянты ўступілі ў размову з парушальнікам, які зразумеў, што не мае рацыі, і пагадзіўся заплаціць штраф. У гэты час нехта з аўтобуса пачаў абурацца дзеяннямі супрацоўнікаў міліцыі. І ўступіў у сварку — пачаў іх абражаць, весці сябе непрыстойным чынам. Загуў увесь прыпынак. Нехта быў за супрацоўнікаў міліцыі, хтосьці — супраць».

Рэпарцёры фіксуюць у Мінску настроі абурэння і гневу ростам цэн і дэвальвацыяй. Адзін мужчына заявіў рэпарцёрцы: «Як ён [Лукашэнка] з намі, так і мы з ім. Не будзем плаціць за праезд». Яны пераносяць абурэнне ўладамі на гарадскія і камунальныя службы, а таксама на супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія да эканамічных праблем ні пры чым.

Пасля затрымання мужчыну адвезлі ў пастарунак і склалі пратакол за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Алег Кудрачоў, які працуе электрыкам на адным з мінскіх прадпрыемстваў, правёў там ноч, а назаўтра яму прысудзілі штраф памерам 700 тыс. рублёў і адпусцілі.

**Алесь Пілецкі**



АНТОН МАТОЛЬКА

**Пасля публікацыі ў СМІ артыкулаў аб выпадку з Алегам Кудрачовым у інтэрнэце ўзнялася хваля салідарнасці з ім. За адзін дзень людзі сабралі для выплаты штрафу 2 млн рублёў.**

## Алег з Нямігі: «Буду заступацца за безбілетнікаў і далей»

**«НН» удалося пагаварыць з Алегам адразу пасля суда.**

**«НН»: Можаце расказаць, з чаго ўсё пачалося?**

**АК:** Мы ехалі ў аўтобусе, калі кантралёрка знайшла гэтага студэнта. Прычапілася да яго, маўляў, плаці штраф, а то нарад выклічу. Мяне гэта абурыла. Я і прапанаваў ёй выйсці на вуліцу і там разабрацца. А студэнту кажу: «Бегаць умееш? То бяжы». Ён і ўцёк з трэцяй спробы. А я — не.

**«НН»: А што далей адбывалася?**

**АК:** Яны на мяне пераключыліся. Я вырываўся, то і схапілі. Прэтэнзій не маю — не падпарадкоўваўся ім, вырываўся. Парвалі вопратку, галавой ударыўся аб сценку.

**«НН»: Тое, што так шмат людзей за вас заступілася, не здзівіла?**

**АК:** Ды не. Я вось за безбілетнікаў заўсёды заступаюся. Гэта ж ужо не першы выпадак у мяне. Аднойчы дзяўчыну абараніў ад кантралёраў.

**«НН»: Пасля такога штрафу будзеце працягваць заступацца?**

**АК:** Так. Я заўсёды заступаюся за людзей.

**Гутарыў АП**

## Сяргей Дарафееў: Эфір ад 19 снежня паўтарыў бы з дакладнасцю

Пра гэта заявіў журналіст Сяргей Дарафееў, адказваючы на пытанне партала Goals.by «Калі б зараз быў выбар, ці сталі б Вы займацца эфірам ад 19 снежня, які стаў [для Вас] апошнім?»

— Калі вы хочаце спытаць: паўтарыў бы я цяпер той эфір ці не, адкажу: «так, усё ў дакладнасці паўтарыў бы». Бо праграму ад 19 снежня лічу па-журналісцку аб'ектыўнай і палітычна нейтральнай. Хоць і каштавала яна мне шмат сівых валасоў у 31 год.

Нагадаем, што пасля эфіру праграмы «Выбар» 19 снежня, дзе Сяргей Дарафееў задаваў жорсткія пытанні кіраўнічцы ЦВК Лідзіі Ярмошынай, ён быў адхілены ад эфіру, а ў маі 2011 г. наогул звольнены з АНТ.

**АГ**







**На паліцах беларускіх крамаў з'явіліся пяльмені «Вкус бульбаша». Без каментароў.**

### З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

## Вучыцца па-беларуску? Ездзі за сем кіламетраў

**Вельмі добра, што вы паднялі ў газеце пытанне аб беларускамоўных школах.**

Мы з мужам гадуем чатырох дзетак. Старэйшая дачка ў гэтым годзе скончыць другі клас. Вучыцца яна ў сярэдняй школе №1 імя Янкі Купалы ў Маладзечне.

У 2009 г. на сходзе для бацькоў першакласнікаў нам распавялі, што будзе тры першыя класы — адзін з іх беларускамоўны. «Цудоўна!» — падумалі з мужам, парадаваліся. Аднак…

Напярэдадні навучальнага года нам сказалі: «Не ўдалося ў нас з беларускім класам». І пачаў мой муж абіваць парогі аддзела адукацыі. Ды марна. Усё, што нам прапанавалі — гэта школа ў вёсцы за 7 км ад Маладзечна.

У гэтым годзе ў першы клас ідзе мой сын. На бацькоўскім сходзе (дарэчы будзе сказаць, што ў школе імя Янкі Купалы ўсе размовы толькі па-руску) дырэктар даводзіць, што мова навучання — па жаданні бацькоў. Бяру бланк заявы аб прыёме ў першы клас, дык там жа нават графы такой «мова навучання» няма. Пытаюся: «Дзе пісаць?» Адказ: «А вот сзади где-нибудь, на обороте».

Разумею, што і ў гэтым годзе беларускага класа не будзе. Такія, як мы, у іх «сзади, на обороте».

Калісьці гэтая школа была цалкам беларускамоўная, а цяпер вось нават і аднаго беларускага класа не адкрываюць. І такая сітуацыя ва ўсім Маладзечне. Яшчэ цікавая рэч. Класы ў школе з мастацкім, харэаграфічным, тэатральным ухілам. На гэта дазволу бацькоў не пытаюць, іх проста ставяць перад фактам. А вось адкрыць беларускі клас і паставіць перад фактам, што ваша дзіця будзе навучацца па-беларуску, у людзей, якія маглі б гэта зрабіць, не хапае ні годнасці, ні мужнасці.

**Іна Брыль, Маладзечна**

# Венгерская настальгія

Ці скіруе яна краіну на беларускі шлях?



Антыцыганскі марш партыі «Йобік».

Па развале сацыялістычнага блока Венгрыя была самай падрыхтаванай да новых рэалій краінай рэгіёна. Венгры яшчэ ў 1982 годзе далучыліся да Міжнароднага валютнага фонду. Разам з Польшчай і Чэхіяй Венгрыя была першай сярэднееўрапейскай дзяржавай, што стала сябрам НАТА і Еўрасаюза. Краіна ішла на першым месцы ў рэгіёне па колькасці замежных інвестыцый.

### Перасядзем з «Жыгулёў» на «Фальксвагены»

Тым не менш, за першай эйфарыяй ад дэмакратыі, ад далучэння да ЕС, прыйшло і першае расчараванне. «Людзі чакалі цудаў. Яны лічылі, што розніца паміж Венгрыяй і Аўстрыяй толькі ў тым, што мы ў сацыялістычным блоку, а суседзі — у капіталістычным. Здавалася, што мы перасядзем з «Жыгулёў» на «Фальксвагены» і ўсе праблемы вырашацца, але цудаў не адбылося. Тыя ж аўстрыйцы працуюць непараўнальна больш, чым мы», — кажа журналіст левай газеты Nepczabadsag («Народная воля») Габар Хорват.

На гэткім фоне ўсё большая колькасць людзей пачынае адчуваць настальгію па часах сацыялізму. «Яны кажуць, што тады не было беспрацоўя, не было галодных, не было бамжоў, не было праблемаў з цыганамі. Нават калі працы не было, то людзі ўсё адно былі нечым занятыя. З усходніх абласцей Венгрыі, дзе працоўныя месцы ў дэфіцыце, людзей вазілі ў Будапешт, а ў пятніцу вечарам адвозілі назад. Ад людзей не патрабавалася ніякай ініцыятывы. Калі апытаць венграў сёння, то многія б хацелі вярнуцца ў тыя часы», — працягвае спадар Хорват.

Дзіўна, што выразнікам такіх пачуццяў у венгерскім грамадстве апынуліся не сацыялісты, а нацыянал-кансерватыўная партыя ФІДЭС. На леташніх выбарах ФІДЭС разам з хрысціянскімі дэмакратамі атрымала 68% месцаў у парламенце, што дае партыі амаль неабмежаваную ўладу ў краіне.

### Харызматычны Орбан

Лідар партыі Віктар Орбан пачынаў рабіць палітычную кар'еру ў 26-гадовым узросце. Агульнадзяржаўную вядомасць яму прынёс выступ на перапахаванні лідара Будапешцкага паўстання 1956 года Імрэ Надзя. Орбан запатрабаваў правесці свабодныя выбары ў краіне і вывесці з Венгрыі савецкія войскі.

З таго моманту яго кар'ера няўхільна ішла ўгару. На першых вольных выбарах ён робіцца дэпутатам парламента, потым узначальвае ФІДЭС. У 1998 г. Орбан стаў прэм'ер-міністрам Венгрыі.

Кансерватар Орбан праводзіў сацыяльную палітыку. За час ягонага прэм'ерства ў краіне была адменена платная адукацыя ва ўніверсітэтах, аднаўленыя льготы для мацярок, зніжаліся падаткі. Тым не менш, ужо тады апазіцыя абвінавачвала прэм'ера ў аўтарытарных замашках.

Двое наступных выбараў ФІДЭС прайграе сацыялістам. Апошні тэрмін прэм'ера Ферэнца Дзюрчаня супаў з сусветным эканамічным крызісам. Не мог ён не адбіцца і на Венгрыі. Гэта і тлумачыць такія вынікі выбараў. Апроч поспеху ФІДЭС і хадэкаў, трэба адзначыць абсалютна фантастычны вынік антыцыганскай, крайне правай партыі з не вельмі прыстойнай для славянскага вуха назвай «Йобік» (скарачэнне ад «За лепшую Венгрыю»).

Яны абсалютна ўпэўнена адужалі пяціпрацэнтны бар'ер, узяўшы ў парламенце амаль 50 месцаў. Вядомасць «Йобік» грунтуецца на антыцыганскіх дэманстрацыях, а таксама патрабаванні прызнання тэрміна «цыганская злачыннасць». Цыганы складаюць 5% ад агульнага насельніцтва Венгрыі. І іх інтэграцыя ў грамадства выглядае сапраўды складанай задачай. Будапештцы, напрыклад, строга не рэкамендавалі нам наведваць вечарам восьмы раён горада, дзе якраз кампактна пражываюць прадстаўнікі гэтай нацыянальнасці.

У справы дзяржаўныя прадстаўнікі партыі «Йобік» асабліва не лезуць. Такім чынам, апазіцыю ў парламенце прадстаўляе толькі купка сацыялістаў, якая не мае ніякага ўплыву на прыняцце рашэнняў. Суразмоўцы ўвесь час адзначалі, што апазіцыя разрозненая і не хоча размаўляць паміж сабой.



Прэм'ер Віктар Орбан усё больш схіляецца да аўтарытарных метадаў.

### Хрысціянская Канстытуцыя

Цяперашні Орбан зусім не падобны да сябе дзесяцігадовай даўніны. У яго прамовах усё менш лібералізму, затое ўсё болей еўраскептызму. «Орбан кажа, што раней нам дыктавалі палітыку з Вены, з Масквы, цяпер спрабуюць з Брусэля. Гэтага не будзе», — кажа аналітык Дзьёрдзь Варга. Ягоная папулісцкая рыторыка знаходзіць удзячных слухачоў. «Орбан часта кажа, што зараз дзьме вецер з Усходу. Што гэта значыць, мала хто разумее, ці ён мае на ўвазе Расію ці Кітай», — кажа Габар Хорват.

Цяпер адной з галоўных тэмаў для абмеркавання становіцца новая венгерская Канстытуцыя. Адзін з аўтараў прызнаўся, што пісаў дапаўненні на сваім айпадзе па дарозе з Брусэля да Будапешта.

У Канстытуцыі шмат момантаў, якія выклікалі неадназначную рэакцыю ўнутры грамадства. Напрыклад, упершыню ў Канстытуцыі замацоўваюцца хрысціянскія каштоўнасці. «Нас аб'ядноўвае Бог і хрысціянства», — напісана ў венгерскім дзяржаўным дакуменце.

«Гэта дзіўнае спалучэнне нацыяналізму і хрысціянства. З нас хочуць зрабіць новую Польшчу, — абураецца Габар Хорват. — Нібыта венгры двойчы на тыдзень ходзяць у касцёл. Але гэта абсалютная няпраўда». Выглядае на тое, што ў краіне будуць забароненыя аборты, а шлюбам называецца толькі «саюз паміж жанчынай і мужчынам».

А яшчэ Орбан вырашыў надаць венгерскае грамадзянства ўсім венграм, што жывуць за межамі краіны. Пры гэтым ім не трэба адмаўляцца ад ранейшых пашпартоў. Яны атрымліваюць права голасу на выбарах. «Можа, такім чынам Орбан шукае сваіх выбаршчыкаў за мяжой», — смяецца эксперт Богар Жолт.

### «Мы малая нацыя. Нас ніхто не абароніць»

Найбольшае ж абурэнне выклікаў новы венгерскі закон аб СМІ. Паводле яго, друкаваныя выданні, тэлеканалы, радыё могуць атрымліваць агромадныя штрафы за інфармацыю, якая каго-небудзь абражае. Прычым, налічваць іх будзе не суд, а спецыяльная камісія па СМІ. Цікава, што ў яе склад увайшлі выключна прадстаўнікі ФІДЭС.

Натуральна, што апазіцыянеры непакояцца, што гэткім чынам уладная партыя будзе спрабаваць зводзіць рахункі за непажаданыя публікацыі. У сакавіку на вуліцы Будапешта выходзіла больш за 30 тысяч чалавек, пратэстуючы супраць закона.

Тым не менш, прадстаўнікі самой камісіі кажуць, што сачыць яны будуць, каб у газетах не было залішняга гвалту ці разбэшчанасці. «Палітыкі Венгрыі гатовыя абараняць свае інтарэсы, нават насуперак інтарэсам Брусэля. Гэты закон найперш паўплывае на абарону нашых дзяржаўных інтарэсаў, нашай мовы, культуры, традыцый. Хто яшчэ за нас заступіцца? Мы малая нацыя. Трэба прыстасоўвацца да новых выклікаў часу», — гаворыць прадстаўнік гэтай самай камісіі Дзьёрдзь Очка.

Насамрэч новаўвядзенне яшчэ не прымяняласа супраць ніводнага тэлеканала, у адносінах да газет яно пачне дзейнічаць толькі з 1 ліпеня. На камерцыйных тэлеканалах нават радыя зменам, бо яны даюць ім большыя выгады з рэкламы. «Не так усё і жудка, у прынцыпе, з гэтым законам мы жывём ад 1996 года. Я здзіўлюся, пабачыўшы кампанію крытыкі», — кажа прадстаўнік аднаго з недзяржаўных каналаў, які захацеў застацца неназваным.

«Прыватныя тэлеканалы лічаць за лепшае не ўлазіць у палітычныя тэмы. На грамадскім тэлебачанні ж 85% палітычнага эфіру займаюць прадстаўнікі ФІДЭС. Той жа Орбан адмаўляецца даваць інтэрв'ю апазіцыйным выданням», — кажа Дзьёрдзь Варга.

Закон замацоўвае такі пункт, што сваёй публікацыяй журналіст не можа нікога пакрыўдзіць: ні большасць, ні меншасць. «Але як так можа быць, — абураецца Габар Хорват. — Журналістыка не можа нікога не крыўдзіць. Задумаліся і СМІ, блізкія да ўрада, як яны будуць пісаць пра Дзюрчаня, якога не называюць інакш як здраднік народа».

Некаторыя з экспертаў кажуць, што Венгрыя зноў вяртаецца да панятку дзяржаўных СМІ. «Журналісты гэтых выданняў не пратэстуюць, бо баяцца апынуцца без працы, а ім трэба карміць свае сем'і», — гаворыць Варга.

### Як у Беларусі не будзе

Усе гэтыя рэчы робяцца ў краіне, якая цяпер старшынюе ў Еўрасаюзе. Тым не менш, моцных рычагоў уплыву Брусэль на сітуацыю ў Венгрыі не мае. Цікава, што былым упаўнаважаным па справах СМІ АБСЕ быў венгр Міклаш Харашці. Ён неаднаразова наведваў Беларусь. Ведае з першых вуснаў аб сітуацыі ў нашай краіне. Дык вось спадар Харашці кажа, што сітуацыя ў Венгрыі складаная, але не крытычная.

«Я не веру, што сітуацыя можа быць падобнай да той, што зараз у Беларусі, — кажа Харашці. — Орбан не здзейсніць той памылкі, якую робіць Лукашэнка. Яму не трэба героі, не трэба акцыі салідарнасці са СМІ».

Па словах Харашці, сітуацыя больш нагадвае расійскую, калі журналісты вымушаныя сыходзіць у самацэнзуру. «Сённяшні ўрад зробіць усё магчымае, каб гэта самацэнзура захавалася», — кажа Харашці.

«У сваёй бясконцай мудрасці нашы кіраўнікі вырашылі вярнуць нас у 70-я гады. Орбан робіць усё, каб замацаваць сваю ўладу. Ставіць чыноўнікаў, пракурораў на доўгія тэрміны. Яны застануцца нават пасля таго, калі ён раптам прайграе наступныя выбары», — гаворыць Габар Хорват.

Вось у што выліваецца венгерская настальгія. Некаторыя аглядальнікі пасляваюць назваць гэта вяртаннем у аўтарытарныя часы, але абсалютна не верыцца, што ў сённяшняй Еўропе гэта будзе магчыма. Апошнія дзесяцігоддзі венгерская грамадзянская супольнасць мацнела. І ў выпадку чаго яна будзе гатовая даць адпор. Орбан грае на папулярных ідэях, каб атрымаць палітычную выгаду. Але, здаецца, нават у яго няма думак стаць другім еўрапейскім дыктатарам.

**Зміцер Панкавец,**
**Будапешт — Мінск**

**Аўтар дзякуе прадстаўніцтву Еўракамісіі за дапамогу ў напісанні гэтага матэрыялу.**

# Шалёны народ, беларускі народ

**З'явіўся якасны мультфільм пра гісторыю Беларусі з тэкстам Лявона Вольскага.**



Укласці гісторыю цэлай краіны ў пяць хвілін экраннага часу — ці магчыма такое? Грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!» і інтэрнэт-партал TUT.BY даказалі, што магчыма. Іх анімацыйны фільм «Будзьма беларусамі» доўжыцца акурат столькі, і за гэты час на экране можна ўбачыць усіх — ад Усяслава Чарадзея і Міндоўга да «Песняроў» і Машэрава.

Мульцік густоўна і па-аўтарску намаляваны — у ім спалучаюцца вядомыя выявы гістарычных асобаў, плён фантазіі мастакоў, пазнавальная стылістыка беларускага мастацтва.

Карцінку суправаджае закадравы рэчытатыў — першая такая рыфмаваная гісторыя Беларусі ў стылі рэп. Яго напісаў Лявон Вольскі, а «прачытаў» Аляксандр Памідораў. Спачатку тэкст спрабаваў агучыць сам Вольскі, але не даў рады тэмпу. Не справіліся і маладыя рэперы. Таму тэкст даручылі чытаць дасведчанаму ў рэчытатывах Памідораву. Ён баразны не сапсаваў, але ўдалося гэта далёка не з першай спробы.

«Мы хацелі зацікавіць людзей гісторыяй, — кажа суаўтар ідэі праекта, дызайнер Юлія Ляшкевіч. — У мультфільм увайшлі далёка не ўсе важныя падзеі беларускай гісторыі, хай людзі спрачаюцца, абмяркоўваюць».

І насамрэч у стужку не трапілі ні Сталін, ні Гітлер, ні Ігнат Дамейка, ні N.R.M. — у першапачатковай задуме гэтыя асобы планаваліся. А Сталіна з Гітлерам Вольскі нават «зарыфмаваў». Але было вырашана не перагружаць сюжэт.

Ствараўся мультфільм шэсць месяцаў, паралельна ўвесь час цягнуліся спрэчкі адносна сюжэта, закадравага тэксту і будучыні мультфільма ў прынцыпе.

Аніматар Юлія Рудзіцкая, напрыклад, сутыкнулася з такой праблемай: дзе ўзяць добрай якасці выявы «Песняроў», каб яны былі там усе і адначасова? Ці як адлюстраваць Другую сусветную вайну, каб не скаціцца ў штампы...

У выніку ўсё ўдалося — глядзіцца мультфільм на адным дыханні, а песня на некалькі дзён западае ў памяць.

Лейтматыў стужкі — беларусы не такія ўжо ціхія і памяркоўныя, як яны прывыклі пра сябе казаць. У мультфільме фігуруе «шалёны беларускі народ». Пад шаленствам аўтары, мяркуючы па ўсім, мелі на ўвазе актыўнасць і стваральную энергію.

Колькі склаў бюджэт фільма, арганізатары не афішуюць, толькі ўдакладняюць, што «сума была зусім невялікая».

Ці ёсць магчымасць паказаць па тэлебачанні мультфільм, дзе згадваецца БНР, а ўвесь сюжэт суправаджаюць бел-чырвона-белыя сцягі, — пытанне рытарычнае. Затое папулярызаваць мультфільм у інтэрнэце ўдалося за суткі — цяпер ва ўсіх сацыяльных сетках яго можна без праблем знайсці.

Застаюцца таксама міжнародныя фес-тывалі. Спецыяльна да найбліжэйшага — маскоўскага — да стужкі ствараецца расійскі падрадкоўнік. У далейшым плануецца пераклад на французскую, англійскую мовы і нават на суахілі, пасміхаюцца аўтары. Але найбольш мультфільм можа быць запатрабаваны па-беларуску і ў межах краіны.

**Юрась Ускоў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Апошні званок для навучэнцаў IX і XI класаў прагучаў 30 мая. Традыцыйныя ўрачыстыя лінейкі адбыліся ў Беларусі для 94376 навучэнцаў IX класаў і 75603 вучняў XI класаў. Пасля большасць выпускнікоў адправілася на шпацыр у гарадскія паркі.**

## Старшыня БТ— у ролі расійскага міністра

**Генадзь Давыдзька зняўся ў фільме пра «МММ».**

Хаця ў пераліку акцёраў нават на сайце карціны прозвішча Генадзя Давыдзькі не пазначана — роля вельмі эпізадычная.

У аснову фільма пакладзена гісторыя фінансавай пірамiды Сяргея Маўродзі «МММ», якая дзейнічала ў першай палове 1990-х. Прататыпам героя Давыдзькі стаў Віктар Ерын, які ў той час узначальваў МУС Расіі.

Зняў фільм рэжысёр Эльдар Салаватаў. Праца над стужкай праходзіла часткова ў Мінску.

У «ПіраМММідзе» зняліся Фёдар Бандарчук, Аляксей Серабракоў, Арцём Міхалкоў, Пётр Фёдараў, Мікіта Салопін.

Саўндтрэкам для фільма з'яўляецца кавер на кампазіцыю беларускага гурта «Ляпіс Трубяцкой» «Капітал». Спявае Багдан Цітамір.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

• **«Канцэрт на траве» перанеслі.** За два дні да канцэрта арганізатары нечакана паведамілі, што мерапрыемства 28 мая не адбудзецца. У сувязі з вялікай колькасцю прададзеных квіткоў узнікла неабходнасць «дадатковага ўзгаднення з мясцовымі ўладамі». Пакуль перанеслі на 11 чэрвеня. «Канцэрт на траве» заяўляўся як мініфестываль. Планаваліся «Крамбамбуля» і «J:морс» з новымі праграмамі, Аляксандар Памідораў і Лявон Вольскі з «Белай яблыняй грому».

• **Гомельскія студэнты прапанавалі рэкламаваць мову на білбордах.** На вуліцах Гомеля могуць з'явіцца стэнды, якія навучаць размаўляць па-беларуску. Студэнты Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта Ганна Кеня і Аляксандр Аплачыкаў прапанавалі ўсталяваць білборды з выявамі розных прадметаў і іх назвамі на беларускай мове, а таксама са слоганам «Беларуская мова ўнікальная». Натхніла студэнтаў тое, што Гомель сёлета абвешчаны культурнай сталіцай краіны.

• **«Глінянага Вялеса» атрымаў Някляеў.** Цырымонія ўручэння штогадовай прэміі Таварыства вольных літаратараў адбывалася не ў Полацку, як зазвычай, а ў Мінску. Бо Уладзіміру Някляеву пакуль нельга выехаць за мяжу горада. Першы тост на неафіцыйнай частцы імпрэзы гучаў як «За цяпер ужо вольных, вольных абмежавана і вольных з адтэрміноўкай літаратараў!».

• **У Гродне з'явяцца вуліцы Агінскага, Багушэвіча, Караткевіча і Орды.** Вуліцы з'явяцца ў новым жылым раёне Гродна «Альшанка». Такое рашэнне прыняў гарадскі савет дэпутатаў, што кіраваўся прапановамі тапанімічнай камісіі.

• **Усім удзельнікам Басовішча-2011 дадуць візы.** Арганізатары фестывалю беларускай музыкі на Беласточчыне дамаўляюцца з консульскімі аддзеламі Польшчы аб магчымасці выдачы візаў усім ахвотным наведаць «Басовішча-2011». Фэст пройдзе 22—24 ліпеня ў Гарадку.

• **Памёр Васіль Шчэцька.** Дзеяч паваеннай беларускай эміграцыі, ён нарадзіўся ў вёсцы Апечкі, што каля Стоўбцаў. У Англіі належаў да Дванаццаткі — групы выпускнікоў Купалаўскай гімназіі ў Заходняй Нямеччыне, што працавалі ў шахтах. Дванаццаткаўцы на зarobленыя грошы выдавалі часопіс «Наперад!». Пасля Васілю Шчэцьку пашчасціла стаць студэнтам Лювэнскага ўнівэрсітэта. З Бельгіі ён выехаў у ЗША, там працаваў у бібліятэцы Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку.

• **«Во славу Родины» раскрытыкавала фільм «Белсата» пра беларускае войска.** Газета Міністэрства абароны «Во славу Родины» раскрытыкавала фільм «Белсата» пра беларускае войска «Гульня ў вайнушку». Журналіст Уладзімір Кажэўнікаў у чарговы раз звінаваціў прадстаўнікоў апазіцыі ў сімпатыях да фашызму. У адказ наведнікі форума сайта Мінабароны параілі яго аўтару пачытаць школьны падручнік па гісторыі, каб даведацца, калі з'явілася нацыянальная сімволіка. І не зразумелі, чаму лозунг «Жыве Беларусь!», на думку аўтара, з'яўляецца фашысцкім.

**СМ**

# Робат-міліцэйскі

**Павал Касцюкевіч.** Апавяданне.

У вітрыне крамы «Тавары для дома» стаяў міліцыянер. Вядома ж, то быў робат, бо жывыя хатнія міліцыянеры ў нашую кібер-эпоху ўжо даўно сталі анахранізмам.

— Возьмем крэдыт і купім, га? — умольна прапанавала Таня, гледзячы на новую форму робата. — Ці, можа, на плацяжы разаб'ём?

Толік адказаў насупленым маўчаннем.

— Толік! — працягвала наступаць Таня. — Мы ж з табою ўжо гэта абмяркоўвалі!

І каторы раз паўтарыла правераную гадамі формулу жыццёвай мудрасці:

— Машына — новая ступень свабоды, а хатні міліцыянер — новая ступень парадку.

Прадавачка, пахмурная, не раўнуючы Толік, разгавелася толькі дзякуючы гэтаму кранальнаму відовішчу — з'яўленнем маладой пары, што робіць першыя нясмелыя крокі ў сямейнай гаспадарцы:

— Ну, на свайго першага міліцыянера мы з мужам накапілі, калі нам было па дваццаць пяць, — прызналася яна і яе твар нечакана аквеціла ўсмешка. — У нас тады нават кватэры не было: жылі ў дзвюх прыгнаных з Бетэльгейзэ іншамарках — ставілі ўпрытык адна да адной. А міліцыянер нам харошы трапіўся — уяўляеце, сам насіў у ДАІ квітанцыі нашых штрафаў!

На яе вочы мройнай плёнкай нагарнуліся ўспаміны.

— Праўда, мы без кватэры і зараз, — дадала прадавачка. — Хаця іншамарак ужо шэсць: мы іх паставілі ў тры паверхі. Ламінат у салоне наслалі і мэбляй абставілі.

Рачуленая прадаваччынай споведдзю, Таня трохі так тэатральна выгукнула:

— Толік, чорт з той заначкай — хачу жыць па-людску!

З даражэзнай пакупкай давялося змірыцца. Перад сыходам з крамы Толік купіў яшчэ запасныя батарэйкі і летняе абмундзіраванне — для свайго новага свойскага жандара.

Дома, толькі яго ўключылі, робат-міліцэйскі адразу ж пачаў шчыраваць: разагнаў электрашокерам несанкцыянаваную алкаголь-вечарынку, якую ў адсутнасць дзяцей ладзіў са сваімі субутэльнікамі цесць Толіка. Потым разблытаў справу-«глухара»: куды губляюцца ўсе шкарпэткі пасля машыннага прання (падрабязнасці справы — аператыўная таямніца). Паралельна пры ператрусе робат знайшоў згубленыя колісь Таняй акуляры, а ў цешчы — порначасопісы на продаж. Наступным крокам робат-міліцэйскі пералавіў усіх мышэй і пацукоў і, начапіўшы ім флікеры, адпусціў на волю. Сям'я не магла нарадавацца новаму парадку.

Потым, за гаўняшкі ў вітальні, пасадзіў на суткі Джэка. Сядзеў Джэк у імправізаваным КПЗ на антрэсолях, і Кацечка насіла (а дакладней шпурляла) туды Джэку перадачы: кілбаскі і «Беламор». Кілбаскі Джэк з'еў, а да «Беламору» не дакрануўся, дык іх падзялілі міжсобку сукамернікі Джэка — суседка цётка Лізавета, што была запхнутая сюды за тое, што пастаўляла Толікавай цешчы на рэалізацыю порначасопісы, а таксама Кацеччына сяброўка пад дзіцячым садзе Леначка, якая падчас гасцявання сцягнула ў Кацечкі барбі.

Уначы з крыкам: «Устаць! З рэчамі на выхад!» робат выцягнуў Толіка з нагрэтага ложка. Таня збянтэжана праводзіла мужа прыспанымі вачыма. Робат-міліцэйскі завёў Толіка на кухню і пад святлом зыркай лямпы загарлаў зноўку:

— Адкуль марыхуана, гаспадар?

— Я не разумею, пра што ты.

— Так, гаспадар, я з табой дудукацца не буду, — узяў быка за рогі робат. — Кацечка і цесць ужо былі на допыце — гэта не іх рук справа. Так што мне засталося сказаць Тані, і тады табе гамон — жонка цябе поедам з'есць!.. Але паколькі ты мой гаспадар, — галасавы мадулятар робата дадаў у словы панібрацкіх інтанацыяў, — дык прапаную табе гешэфт: я адкалупваю рубільнік у сябе на панелі і стуль не буду больш выключацца, а наўзамен следства па справе «Купля наркотыкаў» спыняецца.

Па вяртанні ў спальню Толік лёг і з палёгкай прытуліўся да цёплай жонкі, што праз сон залапатала штосьці няўцямнае. Раптам ступакамі Толік адчуў нешта не тое.

— Таня, а чаму ты спіш у ботах? — спытаў ён.

— Дык пасля твайго арышту я стала рыхтавацца да выкліку на кухню, — прыспаным голасам адказала Таня, — па справе паходжання непрацоўнай заначкі.

— Дурненькая! — Толік яшчэ мацней абхапіў жонку і ўсміхнуўся: — Робат жа не звер: два допыты за адну ноч не агорае. — Ну, нічога, — ён соладка пазяхнуў, — разбагацеем, дык купім у дом больш магутную мадэль, каб хадзіць на начныя допыты разам.




**Работніца камунальных службаў зафарбоўвае надпіс «Народны сабатаж» у цэнтры Мінска.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Хопіць

Алена Ракавец.

Хопіць за нас вырашаць!
Весці ў багну хопіць!
Хопіць лічыць немаўлятамі!
Хопіць — ужо каробіць!
Хопіць! Прыйшоў наш час!
Дайце нам жыць свабодна,
І будаваць жыццё ўпэўнена і лагодна!
Дайце нам выбраць шлях —
свой, а не ваш, адзіны.
Вы так жылі сто год.
Нашы прыйшлі гадзіны.
Хопіць! Нам дайце жыць,
выпусціце з-за кратаў!
Нам паўжыцця ілжы
хопіць! І воўкам брата
Мы ні за што лічыць
проста вось так не станем.
Хопіць! Мы будзем жыць!
І, спадзяёмся, — вы з намі!



САЛІДАРНАСЦЬ

# Дапамажыце Фёдару Седышову

Я мама Седышова Фёдара. Майму сыну 1 год і 9 месяцаў. Гэта нашае адзінае і любімае дзіця. Калі нарадзіўся Фядзюша, мы былі шчаслівыя, нягледзячы на праблемы са здароўем. Калі Фёдару споўнілася 10 месяцаў, яму паставілі страшны дыягназ: мукаполісахарыдоз 1 тыпу (сіндром Гурлер).

Гэта рэдкае генетычнае захворванне, якое паражае ўвесь арганізм (сэрца, печань, зрок, слых, суставы, інтэлект, дзіця перастае размаўляць). Дзеці дажываюць максімум да 6 гадоў.

Цяпер наш Фядзюша расце як звычайнае дзіця, ён любіць гарэзіць, як усе хлопчыкі, радуецца, калі дадому прыходзяць тата альбо бабуля, любіць усіх коцікаў і сабачак. Але хвароба не стаіць на месцы. Яму хутка 2 гады — узрост, калі хвароба пачне прагрэсаваць.

Яму неабходна да 2 гадоў зрабіць трансплантацыю касцявога мозгу. Гэтая аперацыя выратуе жыццё майму сыну і зробіць яго звычайным здаровым хлопчыкам.

Мы звярталіся ў ізраільскую клініку, якая займаецца трансплантацыяй касцявога мозгу. Яны згодныя нам дапамагчы. Прыблізны кошт аперацыі — ад 220 000 даляраў. Гэта вялізная сума, але ў нас іншага выйсця няма.

Дзякуй усім, хто адгукнецца.

Дабрачынныя рахункі адкрыты ў філіяле № 426 г. Гродна, вул. Ажэшкі, 4; УНП 500238502, МФО 152101199.

Беларускія рублі — транзітны рахунак № 3819382106008 на дабрачынны рахунак № 000024 у філіяле № 426.

Даляры ЗША — транзітны рахунак № 3819382109656 на дабрачынны рахунак № 000169 у філіяле № 426.

Прызначэнне плацяжу: Для залічэння на дабрачынны рахунак на імя Седышова Аляксандра Віктаравіча для лячэння сына Седышова Фёдара.

**WebMoney**

Беларускія рублі B225423813092
Еўра E142568530913
Расійскія рублі R168955972855
Даляры ЗША Z193565010603.

**Дар'я Седышова**



# Разведчыкі і «калабаранты»: беларусы за беларусаў

Як суайчыннікі па розныя бакі барыкад заставаліся салідарнымі. Піша **Анатоль Сідарэвіч.**

Так і не папытаўся ў Янкі Брыля, як звалі таго начальніка разведкі і якую разведку ён узначальваў: партызанскага атрада ці брыгады. Так і не спытаў: колькі чалавек звычайна выпраўлялася ў разведку — пяць, шэсць, болей?

Ведаю, што выпраўляліся конна. Наперадзе адзін чалавек. За метраў пяцьдзясят ад яго другі. Потым — метраў праз дваццаць — асноўная група. І замыкаючы.

Рагулеўцы спачатку, мусіць, не ведалі гэтае хітрасці.

(Дарэчы, словы «Рагуля» і «рагулеўцы» я першы раз пачуў, здаецца, у сёмым класе. Віктар Парамонавіч Жагора, сам чалавек навагрудскі, апавядаў пра іх у Тамашоўцы Брэсцкага раёна. Апавядаў, што надта добрыя сёдлы былі ў шwадроне Барыса Рагулі: калі зрэзаць скуру з сядла, атрымлівалася моцная падэшва для чаравікаў ці ботаў. Задача падлеткаў была ў тым, каб прыпільнаваць момант, калі тую скуру можна зрэзаць.)

Дык вось, рагулеўцы спачатку, мусіць, не ведалі, як група разведчыкаў выпраўляецца на заданне. Іван Брыль ехаў наперадзе. І рагулеўцы, якія сядзелі ў засадзе, мабыць, палічылі, што ён адзін. Хоць і была ноч, яны, хлопцы тутэйшыя, без цяжкасці пазналі вершніка. Ды як не пазнаць, калі на кані сядзіць дзяцюк zwei Meter groß, як кажуць немцы? А пазнаўшы, адзін з іх гукнуў, аж рэха панесла:

— Ванька! Брыль! Здавайся!

— Конь у мяне быў добры, — успамінаў Янка Брыль...

(Тут зноў адступленне. Пра сваіх партызанскіх і дапартызанскіх коней Янка Брыль напісаў у эсэ «Косю мой, косю...». Але ў тым эсэ згадваецца Каштан і няма Каштанкі, пра якую, зрэшты, пісаў не раз. Напрыклад, у зборніку «Парастак» — як яна, не любячы звону бомаў, дадумалася бегчы так, каб тыя бомы не звінелі.)

Добры конь умэнт павярнуўся на сто восемдзесят і так уратаваў жыццё гаспадару.

### Слёзы Якуба Міско

У партызанскага разведчыка Янкі Брыля былі сябры — вайсковыя разведчыкі. Пра аднаго з іх — Фёдара Янкоўскага — я пісаў. А другога звалі Якуб Міско. Ён працяглы час працаваў у «Сельской газете», якая цяпер мае недарэчны назоў: «Белорусская нива». Недарэчны таму, што амаль гэтак — «Беларуская ніва» — называлася газета ў Заходняй Беларусі, і была тая газета сапраўды беларускаю.

Ды вернемся да Якуба Міско. У Беларускай Энцыклапедыі ёсць артыкулы і пра яго, і пра ягоных земляоў — цёзак па прозвішчы: аграрыя Андрэя Васільевіча ды скульптара Івана Якімавіча. Яны, як і Якуб Герасімавіч, — з вёскі Чамярын былога Слонімскага павета. Вёска знакамітая тым, што за Польшчаю там быў моцны беларускі асяродак. І вязняў у польскія турмы яна дала нямала. У ліку вязняў быў і Якуб Міско, з якога вельмі кпіў былы ягоны таварыш па польскіх турмах, а потым эмігрант і рэдактар газеты «Беларускі голас» у Канадзе Сяргей Хмара: маўляў, змагаўся з палякамі за беларушчыну, а сам у сваёй «Сельской газете» займаешся русіфікацыяй.

Я не ведаў гэтага чалавека асабіста. А ягонае жыццё надаецца для твора аб драме заходнебеларускага хлопца, які аднойчы паверыў у камунізм.

Затлуміўшы юнаку галаву, камуністы — і ў першы чарод Ігнат Дварчанін — не далі яму завяршыць вучобу ў гімназіі. Зрэшты, не яму аднаму — Максім Танк і Валянцін Таўлай таксама не атрымалі атэстат сталасці «дзякуючы» старэйшым таварышам, якія ахвотна падстаўлялі моладзь пад удары дэфензівы.

Якуба Міско мусілі (падкрэсліваю: мусілі) адлічыць з Віленскай беларускай гімназіі за актыўны ўдзел у вучнёўскім страйку, наладжаным у першы дзень апеляцыйнага працэсу ў справе Сялянска-Работніцкай Грамады (29 лютага 1929 г.). Як і Валянцін Таўлай, ён працаваў у камуністычнаму друку, не адзін раз трапляў за краты. Пераждаў шок, калі Масква распусціла Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. Калі ж у Заходнюю Беларусь прыйшлі саветы, пераждаў сапраўдны стрэс: «вызваліцелі» кінулі яго, былога падпольшчыка, у турму. Добра, што ненадоўга.

На фронце Якуб Міско служыў у разведцы. Даслужыўся да маёра. З «іканастасам» на грудзях вярнуўся ў родны кут. І зноў яго чакаў удар. Пакуль ён ваяваў за савецкую ўладу, гэтая ўлада выслала яго родных на ўсход: бацьку Якуба Міско — Герасіма — чамярынцы выбралі солтысам, і савецкая ўлада належным чынам распраўлялася з «калабарантам». Янка Брыль напісаў, як ягоны сябар Якуб, дазнаўшыся пра высылку родных, біўся ў рыданнях...

Калі я вывучаў гісторыю таго знакамітага страйку ў Віленскай гімназіі, Янка Брыль даў мне пасмяротны зборнік твораў Якуба Міско з успамінамі. Пра той страйк, арганізаваны з падказкі Ігната Дварчаніна, мемуарыст успамінаў як пра геройчны ўчынак і згадваў, як яны, камсамольцы-гімназісты, смяяліся з Антона Луцкевіча, які, сам падсудны, прыехаўшы ў гімназію, угаворваў іх апаматацца, бо палякі, карыстаючы з моманту, могуць гімназію зачыніць. Луцкевіч, згадваў Якуб Міско, плакаў, а яны, камсамольцы, выпусцілі насценгазету, у якой Луцкевіча высмеялі.

Ці быў Якуб Міско шчыры ў сваёй бравадзе? Як бы ён паводзіў сябе ў гарбачоўскую перабудову і пазней, калі стала вальней дыхаць і гаварыць? На гэтыя пытанні няма адказу. Доктар Арсень Ліс, які трохі ведаў Якуба Міско, спасылаўся як на прыклад на Уладзіміра Калесніка, чалавека на 11 год маладзейшага за Якуба Міско і перад уладай «чыстага». Прафесару Калесніку — гэта сведчу і я — цяжка было пераадолець камуністычныя стэрэатыпы і звычкі.



Савецкага агента Валянціна Таўлая (на фота злева) на Усебеларускім кангрэсе ў паднямецкім Мінску ў 1944-м ніхто з калег-паэтаў не выдаў. Побач з ім: Тодар Лебяда, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Сяргей Хмара, Уладзімір Глыбінны, Хведар Ільяшэвіч.

### Агент сярод паэтаў

Нядаўна Арсень Ліс пераказваў мне чутае ад яшчэ аднаго камуніста — Максіма Танка. Як ён, Максім Танк, ідучы ў 1944 годзе з фронтам на Захад, скарыстаў з магчымасці і заскочыў у Вільні да ксяндза Адама Станкевіча. (З дзённіка айца Адама можна даведацца, калі гэта было: 27 ліпеня.) Выходзячы з кватэры ксяндза, паэт сутыкнуўся з пэўным суб'ектам, якога надта цікавіла, што робіць савецкі афіцэр у святара. Максім Танк сунуў яму пад нос пасведчанне карэспандэнта франтавой газеты і пайшоў сваёй дарогай.

Што за айцом Адамам сачылі, тое не навіна. Навіной было б, калі б за ім не сачылі.

Што ў айца Адама бывалі камуністы — тое занатавана і ў яго дзённіку. Але дзённік вёўся нерэгулярна і не ўсё натавалася. Ведаю з вусных апавяданняў Янкі Брыля, што госцем у ксяндза Станкевіча не раз і не два бываў камуніст-падпольшчык Валянцін Таўлай. Ад айца Адама ён прывёз у навастворны музей Янкі Купалы рукапіс «Паўлінкі» ды іншыя аўтографы.

Мне цікава: ці падбіраў той суб'ект і да Валянціна Таўлая, ці патрабаваў дакумент? І што паказваў ці казаў яму паэт?

З Таўлаем таксама гісторыя. Пра тое, з якімі цяжкасцямі ішла ў друк ягоная першая кніга, як яе рэдагавалі, як памянялі яе загаловак — пра тое напісаў, зноў-такі, Янка Брыль. Бо і з Таўлаем пісьменнік паспеў пасябраваць. Уладзімір Калеснік сведчыў, што іх часта можна было бачыць разам — рослага Янку Брыля і невысокага Валянціна Таўлая.

Дык што ж паказваў ці казаў Валянцін Таўлай чэкісцкаму цэрберу, які пільнаваў уваход у кватэру ксяндза Адама Станкевіча? Пытанне не пустое: як вядома, у час вайны паэт працаваў на савецкую вайсковую разведку. Была такая спецгрупа «Буравеснік», вось у ёй і служыў Валянцін Таўлай.

У канцы чэрвеня 1944 года, калі збіраецца і працуе II Усебеларускі кангрэс, мы бачым яго ў Мінску. У літаральным значэнні гэтага слова бачым, бо захаваліся (здаецца, два) фотаздымкі, на якіх Таўлай зафіксаваны разам са сваімі калегамі — Аляксеем Анішчыкам, Хведарам Ільяшэвічам, Тодарам Лебядой, Алесем Салаўём, Масеем Сяднёвым, Уладзімірам Сядурам і Сяргеем Хмарам. Усе яны стануць або эмігрантамі, або вязнямі Гулага.

### Беларуская салідарнасць

Мусіць, мы здагадваемся, што рабіў у канцы чэрвеня 1944 года ў Мінску разведчык Валянцін Таўлай. Але тут цікавы адзін момант. Былы заходнебеларускі вязень Сяргей Хмара, былы віленскі гімназіст Хведар Ільяшэвіч ды былы навагрудскі гімназіст Аляксей Анішчык выдатна ведалі, да якой партыі належаў Валянцін Таўлай, і, мусіць, здагадваліся, што ён не памяняў свае погляды.

І «калабаранты» не выдалі яго мінскай СД?

...Шкадую, што не папытаўся ў Янкі Брыля, як звалі таго начальніка разведкі і якую разведку ён узначальваў: партызанскага атрада ці брыгады. Відаць, гэты начальнік быў непрафесійны разведчык. Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі, думаю, не пашкадаваў бы яго.

Аднаго разу гэтаму начальніку не ўдалося абхітрыць праціўніка. Калі яго, мёртвага, абшукалі, дык знайшлі ў кішэні нататнік, у якім без усякага шыфру, пад сваімі імёнамі (!) былі запісаны партызанскія сувязныя. У тым спісе было і прозвішча аднаго знаёмца Янкі Брыля, настаўніка. Гэтага настаўніка арыштавалі. Седзячы ў стаўпецкай СД, чалавек чакаў расстрэлу. І якое ж было ягонае здзіўленне, калі шэф СД сказаў яму, што ён паедзе на прымусовую працу ў Нямеччыну. Абвясціўшы прысуд, шэф СД дадаў: падзякуйце вашаму школьнаму інспектару, гэта ён заступіўся за вас перад адпаведнымі інстанцыямі.

Школьнага інспектара, «калабаранта», звалі Міхась Міцкевіч. У яго быў псеўданім — Антось Галіна. Ён быў малодшым братам Якуба Коласа.

## КАНЦЭРТЫ

### «Разбітае сэрца пацана»

**2 чэрвеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** зайграе «Разбітае сэрца пацана» — мінскі гурт з кардэбалетам, які спявае на трасянцы. **Пачатак а 19-й.**

### Тройца

**9 чэрвеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — этна-трыа «Тройца»

### Хор Святога Юхансена

**3 чэрвеня ў малой зале Белдзяржфілармоніі** — выступленне шведскага камернага хору Святога Юхансена. **Пачатак а 19-й. У Полацку** камерны хор Святога Юхансена выступіць разам з хорам Concordia **4 чэрвеня а 17-й у канцэртнай зале Сафійскага сабора**.

### «Рок за Баброў»

**4 чэрвеня на аэрадроме «Баравая» пад Мінскам** пройдзе шосты па ліку фэст «Рок за Баброў». Хэдлайнерамі заяўленыя дзве расійскія каманды — «Мумій Троль» і «Парк Горкага». Сярод беларускіх выступяць «Жнюв», «Бан-Жвірба», Unia, Tok Rukoo. Пасля запланаваны выступ таямнічай каманды з Літвы The Pitch Puller. Для маладых гуртоў прадугледжаны праект «Рок-скарбонка». Кожны малады гурт можа падчас фэсту прадаставіць дыск са сваім рэпертуарам і атрымаць магчымасць па выніку бясплатна запісаць свой сінгл, які будзе тыражыраваны і запушчаны ў ратацыю на беларускіх радыёстанцыях. Уваход на фэст бясплатны.

## ІМПРЭЗЫ

### Опера ў Строчыцах

**10 чэрвеня ў Музеі народнай архітэктуры ў Строчыцах** пройдзе канцэртная праграма «Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам» **(пачатак а 22-й)**. У начным канцэрце возьмуць удзел салісты Музычнага тэатра, Оперы, Вялікага тэатра Расіі (Масква), Марыінскага тэатра (Санкт-Пецярбург). Прагучаць творы Бізэ, Вердзі, Моцарта, Пучыні, Рахманінава, Штрауса.

### Фестываль шведскага кіно

**Ад 7 да 10 чэрвеня ў кінатэатры «Цэнтральны»** — фестываль шведскага кіно. **Пачатак а 19-й.**

7 чэрвеня — «Дзяўчынка».
8 чэрвеня — «Падпарадкаванне».
9 чэрвеня — «Добраахвотнапрымусова».
10 чэрвеня — «Сумнеўна».




### Прэзентацыя альманаха DRUVI

**3 чэрвеня (пятніца) у мінскім Палацы мастацтваў (вул.Казлова, 3, вялікая выстаўная зала)** пройдзе прэзентацыя трэцяга нумара альманаха DRUVIS. **Пачатак а 18-й.** У прэзентацыі возьмуць удзел мастак і музыка Тодар Кашкурэвіч, філосаф Аляксей Дзермант, мысляр Ягор Чурылаў.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава не дзіцячага малюнка

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** да 19 чэрвеня працуе выстава твораў Міхаіла Гуліна «Выстава не дзіцячага малюнка». Мастак звяртаецца да тэмы мас-медыя і аналізуе механізмы, законы і рытуалы, якія вызначаюць сёння дыстрыб'юцыю і рэцэпцыю візуальнай інфармацыі. На выставе прадстаўлены дзве групы твораў, якія экспануюцца ў дзвюх прасторавых зонах: Minimal Sexual і «Дзіцячая дэманалогія».







### Арт-лінія

**Да 17 ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава графічных работ студэнтаў Акадэміі мастацтваў у рамках IV Мінскай міжнароднай выстаўкі графікі «Арт-лінія». У экспазіцыі прадстаўлена больш за 40 дыпломных і курсавых работ студэнтаў і выпускнікоў кафедры графікі за апошнія 10 гадоў.

### Сучасны польскі жывапіс

**У Музеі сучаснага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** да 5 чэрвеня працуе выстава «Сучасны польскі жывапіс». На выставе прадстаўленыя творы найбольш вядомых мастакоў — выкладчыкаў Акадэміі мастацтваў у г. Катавіцэ — праф. Яцэка Рыкалы, праф. Казімежа Цесьліка, праф. Багдана Топара.

### Выцінанка

**Да 4 чэрвеня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава выцінанкі Надзеі Букі. Вожык на дне бутэлькі, панда з гузікам на пысе, мандарыны на снезе — фантазіі мастачкі, увасобленыя ў творах.

### Кранальная выстава

**У Мастацкім музеі (вул.Леніна, 20) да 18 чэрвеня** працуе выстава скульптуры — «Кранальная выстава». На выставе можна ўбачыць творы Алега Варвашэні, Андрэя Вараб'ёва, Аляксандра Мінькова, Дзмітрыя Аганава, Сяргея Аганава, Андрэя Асташова. Назву выставы трэба разумець літаральна — экспазіцыя павінна пашырыць межы ўяўленняў аб класічным музеі, дзе зазвычай забаронена датыкацца да экспанатаў.

### Дымкі

**У Доме прыроды (вул.Багдановіча, 9а)** працуе мастацкая выстава «Дымкі» Алены Хатэнка. На выставе прадстаўлена звыш 70 яе прац, стыль іх выканання ўнікальны і каларытны.

### Вайна вачыма Льва Барадуліна

**Да 2 чэрвеня ў Музеі ВАВ на Кастрычніцкай плошчы** — выстава работ з асабістай калекцыі Аляксандра і Льва Барадуліных — найбуйнейшай у свеце калекцыі класічнай савецкай фатаграфіі.

### У гонар Генрыка Сянкевіча

**У бібліятэцы імя Якуба Коласа НАНБ (вул.Сурганава, 15)** працуе выстава «Летапісец гісторыі Польшчы (да 165-годдзя з дня нараджэння Г. Сянкевіча)», падрыхтаваная аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі сумесна з Польскім Інстытутам у Мінску. На выставе экспануюцца выданні 1887–2009 г.



## ТЭАТРЫ

**2 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Оперы і балета** — «Жызэль»

**3 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Оперы і балета** — «Набука»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць»

**4 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Кот у ботах»

**5 чэрвеня**

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

**6 чэрвеня**

**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Купалаўскі** — «Дзеці Ванюшына»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**7 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Неба ў дыяментах»

**8 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Офіс»

**9 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

**10 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Оперы і балета** — «Стварэнне свету»
**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

**11 чэрвеня**

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

**12 чэрвеня**

**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

## КІНО

# Стомленыя сонцам-2: Цытадэль

**Утомленные солнцем-2: Цитадель**
Расія, 2011
**Рэжысёр:** Мікіта Міхалкоў
**Жанр:** драма

«Стомленыя сонцам-2: Цытадэль» Мікіты Міхалкова — фінальная частка адысеі камдыва Котава па франтах Вялікай Айчыннай.

Котава (Міхалкоў) уваскрашаюць па асабістым загадзе Сталіна, з захаваннем звання, ордэнаў, пайкі і скуранога паліто, але з дзіўнай мэтай — узначаліць самазабойчую аперацыю «Чорная пяхота».

Знаўцам аўтэнтычнасці няма чаго лішні раз шукаць у гістарычных хроніках 1943 года згадку пра размешчаную ў цэнтры Расіі дыхтоўную фашысцкую крэпасць, паколькі яе там не магло быць у прынцыпе.

Папярэдняя частка «Стомленых сонцам» запомнілася не ў апошнюю чаргу любоўна раскладзенымі ў кадры салдацкімі вантробамі. «Цытадэль» наглядна дэманструе, што ўсярэдзіне ў чалавека і апроч кішак ёсць шмат іншых каштоўных рэсурсаў, схаваных да часу.

Як у фізіялагічным разуменні, а яно праілюстравана грунтоўна знятай сцэнай родаў, так і ў парадку маральнага перараджэння, дзе найбольшых поспехаў дасягае герой Алега Меньшыкава Міця Арсенцьеў.

Ад галоўнага апанента камдыва ўстойліва цягне пякельнай серай, але па сюжэце ён робіцца хутчэй анёламахоўнікам, хай і супярэчлівым, як прафесар Снэйп у «Гары Потэры». Відаць, разуменне, што палкоўнік дзяржбяспекі, які любіць публічна іграць на раялі, дрэнным чалавекам быць не можа, прыйшло да Міхалкову з часам, багатым для рэжысёра на сустрэчы з цікавымі людзьмі і новымі сябрамі.

Мікіта Сяргеевіч тройчы іграе знаёмую па «Жорсткім рамансе» мізансцэну «барын прыехаў» (сапраўды, па-акцёрску вельмі для сябе выйгрышную), прычым адзін раз прыязджае на танку.

Немалую частку экраннага часу герой надае дзіцячаму гумоваму бусляняці. Цацачная птаха пішчыць у фільме, каб неяк разрадзіць драматургічныя тупікі, у якія персанажы рэгулярна забрыдаюць з прычыны выразна сырога сцэнара.

**Паводле gazeta.ru**



# Што прапануюць кліентам беларускія аграсядзібы

Адпачынак на радзіме: вясковая ідылія.



## Узбоч каралеўскай дарогі

Адметнасць сядзібы «Хутарок Ярынка» на Камянеччыне — яе суседства з колішняй «каралеўскай дарогай». Некалі той дарогай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ездзіў у госці да графіні Марыі Патоцкай у маёнтак Высокае.

Сядзіба знаходзіцца на ўскрайку вялікага лесу, яе атачаюць дзясяткі крыніцаў. Ёсць сад, сажалка з рыбай. Гаспадары пачастуюць гасцей смачнай юшкай, стравамі беларускай кухні. Ёсць лазня. Можна пайсці і ў душ.

Прадугледжаныя і экскурсіі на выбар: ад наведвання Белавежскай пушчы і страусавай фермы да экскурсіі ў Камянец і Брэсцкую крэпасць.

**«Хутарок Ярынка»**

Брэсцкая вобласць, Камянецкі раён, в. Свіцічы, д. 24.

Т.: (029) 824-00-56; (025) 950-40-22 (Лідзія Уласюк).

## Беларускамоўным — зніжкі

Сядзіба «Родны кут» Юліі Бука, што ў вёсцы Валодзькава Глыбоцкага раёна, сёлета перамагла ў конкурсе «Найлепшая аграэкасядзіба 2010 года» ў намінацыі «Зялёная сядзіба». Галоўная яе асаблівасць — натуральнасць. Тут няма сайдынгу і іншых прыкметаў сучаснага жытла. Хаткі для гасцей спадарыні Юліі захоўваюць атмасферу сялянскага жытла. Зрэшты, для больш патрабавальных гасцей ёсць хатка са «зручнасцямі».

Сядзібу атачае лес, побач возера Акунёва. Вакол ціша і спакой.

Гаспадары прапануюць зніжкі для сем'яў з дзеткамі, для вялікіх групаў, а таксама для беларускамоўных гасцей.

**«Родны кут»**

Віцебская вобласць, Глыбоцкі раён, в. Валодзькава.

Т.: (02156) 36-357; (029) 109-51-89 (Юлія Бука).

## Спатканне ля Святога возера

Сядзіба «Спатканне» месціцца ў вёсцы Стрэнькі Рагачоўскага раёна. Прыдатная як для сямейнага, так і для самотнага адпачынку. Для сем'яў з дзеткамі маецца дзіцячы пакой.

Побач з вёскай — возера Святое.

Гасцей чакаюць купанне і рыбалка, хатнія стравы, шашлык, гароднiна і садавіна з прысядзібнага ўчастка. Адпачыўшы на прыродзе, можна наведаць у Цэнтр народных рамёстваў, што дзейнічае ў Стрэньках.

**«Спатканне»**

Гомельская вобласць, Рагачоўскі раён, в. Стрэнькі, вул. Бабруйская, д.4а.

Т.: (029) 640-47-99 (Сяргей Сергіенка).

## Пакуль не пабудавалі АЭС, трэба ехаць у Астравецкі раён

Сядзіба «Падкасцёлак» стаіць узбоч дарогі Вільня—Полацк. Адсюль літаральна сотня метраў да возера Галадзянка (Сарачанскія азёры). Навокал лес, чыстае паветра.

Сядзіба прыдатная для сямейнага і карпаратыўнага адпачынку, там можна ладзіць святочныя і дзелавыя мерапрыемствы.

Ёсць магчымасць пакатацца на чаўнах, катамаранах, заняцца віндсёрфінгам. Калі вада — не ваша стыхія, можна прайсціся па лесе, пазбіраць грыбоў і ягадаў. Ёсць магчымасць папарыцца ў лазні, а на ноч размясціцца ў старым гумне.

**«Падкасцёлак»**

Гродзенская вобласць, Астравецкі раён, хутар Падкасцёлак.

Т.: (029) 388-86-88; (029) 627-27-89 (Эдуард Вайцяховіч).

## На конях берагам Сожа

Сядзіба «Блакітны Сож» у вёсцы Каськова Мсціслаўскага раёна прапануе адпачынак для цела і душы. Яна месціцца на беразе Сожа — ідэальнае месца для купання і рыбалкі. Побач лес: ягады, грыбы і лекавыя травы. Аматары актыўнага адпачынку могуць згуляць у валейбол, праехацца на конях. На замову гасцей гаспадары арганізуюць музычныя мерапрыемствы з песнямі і танцамі. На тэрыторыі сядзібы дзейнічае пляцоўка для дзіцячых гульняў. І, натуральна, стравы нацыянальнай кухні, лазня з парам і венікам.

Па жаданні арганізуецца наведванне Успенскага манастыра ў Пустынках. Тут б'е гаючая крыніца, па ваду з якой едуць здалёк. А побач Расія — можна пяшком схадзіць. Пабачыць, як жыве саюзная дзяржава. (Экстрым!)

**«Блакітны Сож»**

Магілёўская вобласць, Мсціслаўскі раён, в. Каськава.

Т.: (029) 312-65-59 (Аляксандр Савушкін).

## «Шчодры Заяц»

Сядзіба «Шчодры Заяц», што ў вёсцы Сялоўшчына Бярозаўскага раёна, прапануе адпачынак для людзей з аўто. У ваколіцах багата цікавых мясцінаў. За 10 км пачынаецца Рэспубліканскі біялагічны заказнік «Спораўскі»: можна пабачыць рэліктавае балота з яго разнатраўем і рэдкімі відамі птушак — накшталт вяртлявай чаротаўкі і арлана-белахвоста. Раён багаты і гістарычнай спадчынай: манастыр у Бярозе, сядзіба Пуслоўскіх у вёсцы Пяскі.

**«Шчодры Заяц»**

Брэсцкая вобласць, Бярозаўскі раён, в.Сялоўшчына, вул. Горкага, д. 18.

Т. : (01643) 48-126 (Марыя Зайцава).

## Пад спевы салаўя

Сядзіба «У Нічыпараў», што ў вёсцы Магільна Стаўбцоўскага раёна, асабліва прывабная ў маі. Вакол яе расце яблыневы сад, у якім так прыгожа спяваюць салаўі.

На сядзібе ёсць невялікая сажалка, каля яе — альтанкі, дзіцячая пляцоўка.

Зусім блізка — грыбныя лясы і Нёман. Аматараў гісторыі зацікавіць замчышча XVI—XVII стагоддзяў, магільнянскія ваколіцы, што поўняцца легендамі пра тое, як літоўскі князь Рынгольд біўся тут з войскамі рускіх князёў і татараў.

Аматараў гастраноміі гаспадары пачастуюць фаршаваным шчупаком, дранікамі, бабкай. Само сабой — свежая гародніна, што расце побач у парніку і на ўчастку.

Гасцям прапануюцца экскурсіі ў Нясвіж, Мір, вёску Наднёман з рэшткамі сядзібы Ёдкаў, музей Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне.

**«У Нічыпараў»**

Мінская вобласць, Уздзенскі раён, в. Магільна, вуліца Маладзёжная,14.

Т.: (29) 109-66-85(Ала Нічыпаровіч).

## На плытах па Нёмане і Бярэзіне

Гаспадар сядзібы «Дакудава», што на Лідчыне, Юрый Агарка, ладзіць сплавы па Нёмане і Бярэзіне на плытах, а таксама паходы на байдарках. На кожным з двух плытоў спадара Юрыя з камфортам могуць размясціцца дванаццаць чалавек. Гэта ўнікальная магчымасць адчуць сябе плытагонам. У часе сплаваў робяцца прыпынкі для грыбных і ягадных збораў, рыбалкі і купання.

Аматараў аселага адпачынку чакае сядзіба «Дакудава». Тут пачастуюць сялянскімі прысмакамі — малаком, тварагом, мёдам, гароднінай і садавінай. А найбольш цікаўныя навучацца даіць карову, ездзіць на коні.

**«Дакудава»**

Гродзенская вобласць, Лідскі раён, в. Дакудава, д. 14.

Т.: (029) 280-31-41; (01561) 78-240 (Юрый Агарка).

**Сямён Печанка**



**«У Нічыпараў» — ідэальны парадак.**



**Юрый Агарка — гаспадар на ўсе рукі. І па рацэ сплавіць, і накорміць.**

---

**Сапраўдная беларуская кухня**

## Прахаладжальныя напоі

**Ліманад**

З 12 вялікіх лімонаў адцісніць сок над сітам. Зварыць густы сіроп з 1,5 кг цукру і 2,5 шклянкі вады, дадаць для паху скуркі лімона, астудзіць і змяшаць з сырым сокам. Разліць па бутэльках і ўжываць са свежай вадой з лёдам.

**Аранжад**

Бярэцца шэсць апельсінаў і чатыры лімоны, з іх выцiскаецца сок і праварваецца з трыма літрамі вады і з 1 кг цукру, дакладаючы трохі скуркі лімона для паху. Пасля астуджэння падаецца з лёдам і кавалкамі апельсіна.

**Аршад**

400 г салодкага міндалю і трохі горкага міндалю моцна патаўчы, заліць трыма шклянкамі вады і адцісніць раз праз сурвэту; потым зноў растаўчы міндаль і другі раз адцісніць, заліўшы яшчэ трыма шклянкамі вады. Ахаладзіць і падаць вельмі халодным.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854.**
**Падрыхтавала НБ**

ПРАЕЗД

## Дарагая дарога

Білеты да Масквы падаражэлі на 60%.

Цяпер квіток з Мінска ў Маскву ў купэйны вагон хуткага цягніка № 2 каштуе 635 тысяч рублёў. У СВ удвая даражэй — можна даплаціць 30 тысяч і ляцець самалётам «Белавія».

У цягніку № 28 «Брэст — Масква» з беларускай у расійскую сталіцу ў купэ можна даехаць за 385 тысяч рублёў. Гэта самы нізкі тарыф, па якім сёння можна набыць квіток яшчэ на некалькі цягнікоў.

У сярэднім квіткі на маскоўскім кірунку падаражэлі на 60%. Самы танны спосаб дабрацца да Масквы і вярнуцца ў Мінск — аўтобус: ад 26 мая кошт квітка ў адзін бок складае ўсяго 130 тысяч рублёў.

Квіток на новы цягнік Мінск—Вільня каштуе 49 000 рублёў. Аўтобус пятым самым маршрутуе каштуе 75 тысяч рублёў.

З Мінска ў Кіеў цягніком №86 можна даехаць за 200 тысяч рублёў у плацкарце ці за 320 тысяч — у купэ. Новая цана большая за старую на 40%. Аўтобус каштуе 120 тысяч рублёў у адзін бок.

Чыгуначныя квіткі ў Крым падаражэлі найбольш — да 80%. Кошт квітка на цягнік № 100 «Мінск—Сімферопаль» складае 340 тысяч у плацкарце ці 540 тысяч у купэ.

**ЯВ**

## Прафсанаторыі: пуцёўкі толькі беларусам?

Прафсаюзы пачынаюць змаганне з засіллем расійскіх турыстаў у беларускіх санаторыях. Генеральны дырэктар турысцка-экскурсійнага ПУП «Мінстурыст» Марына Масташова заявіла, што шэраг санаторна-курортных установаў Беларусі, у прыватнасці прадпрыемства «Белпрафсаюзкурорт», склалі з турфірмамі дадатковыя дамовы, якія абавязваюць прадаваць пуцёўкі ў іх здраўніцы толькі жыхарам Беларусі.

Дарэчы, прададзена ўжо 90% пуцёвак у беларускія санаторыі на лета.

**ЯВ**




**Беларускія каталікі 29 мая святочнай працэсіяй па праспекце Незалежнасці адзначылі ўрачыстасць Божага Цела. Шэсце сабрала да трох тысяч чалавек. На Плошчы Перамогі шэсце супала са зменай піянерскай ганаровай варты ля Вечнага агню.**



**У Беларусі імкліва нарастаюць пратэставыя настроі. Надпіс насупраць абменніка ў Маладзечне.**




**Беларусы смяюцца з фінансавага хаосу. Інтэрнэт поўны калажаў, «фотажабаў», жартаў, а часам і проста «вымоўных» фатаграфій.**




**Лета ідзе. Спаборніцтвы па пляжным валейболе сярод студэнтаў на Мінскім моры ў выходныя.**




**У фінальным матчы Кубка Беларусі, што прайшоў на мінскім стадыёне «Трактар», палешукі з «Гомеля» выйгралі ў «Нёмана» з лікам 2:0. Цікава, што абодва мячы былі забітыя ў канцы сустрэчы... і двойчы «Нёманам». То бок гэта былі аўтагалы Рыбака і Каваленкі. У двух выпадках асісціраваў гулец «Гомеля» Ігар Стасевіч. «Гомель», апроч кубка, атрымаў пуцёўку ў Лігу Еўропы.**

## Анекдоты



* * *

Калі Еўропа не паспяшаецца з эканамічнымі санкцыямі, ёй давядзецца ратаваць нас крэдытамі!

* * *

Наогул рубель збіраліся дэвальваваць на 79—83%, але потым вырашылі, што гэта не еўрапейскі паказчык.

* * *

Тры стадыі беднасці ў Беларусі.
1. Няма чаго есці.
2. Зусім няма чаго есці!
3. Трэба ісці здаваць валюту...

* * *

«Прадам краіну, нядорага, не бітая, не фарбаваная, адзін уласнік. Канстытуцыя заменена, сімволіка таксама. Інструкцыя па эксплуатацыі на рускай. БТ-магнітола з функцыямі АНТ, СТВ і ЛАД. Цана $6,5 млрд. Гандаль. Можна ў растэрміноўку».

* * *

Паступіла прапанова зняць з усіх фальклорных зборнікаў прыказку «Гуртам і бацьку лягчэй біць» як экстрэмісцкае выказванне, скіраванае на скіданне канстытуцыйнага ладу гвалтоўным шляхам.

* * *

— Чаму ты сядзіш каля піяніна, ты ж іграць не ўмееш?
— Каб сюды не сеў хтосьці, хто думае, што ўмее.

* * *

Сэксуальная фантазія на выхадныя — выспацца ва ўсіх позах.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вільня.** 29 і 30 мая Віленскім аэраклубам устроеныя былі палёты. Лётаў вядомы расійскі авіятар-лятун Утачкін. Ён падымаўся ў паветра разоў 5—6. Колькі разоў падымаўся з пасажырамі.

**«НН». № 22. 1911**

**Менскі бізнэсмэн даведаўся,** што на Ашмянскай мытні танна прадаюць скандфіскаваныя курыныя кумячкі. Прыехаў. Сустрэў чалавека. Пытаецца: хто тут прадае скандфіскаваны тавар? Я — кажа той. Дамовіліся. Тамтэйшы атрымаў 21,5 тыс. даляраў і адбыў у невядомым кірунку. Купец назаўтра прыгнаў дзве фуры, каб пакласці тавар. Але ніхто не сустракаў яго з хлебамсоллю й курынымі нагамі. Аферыста шукаюць, але знойдуць, хіба, па гучным рогаце... А грошы, між іншым, былі пазычаныя.

Наша Ніва
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7285.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 31.05.2011.
Замова №. 2567 .
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614